# У СТАРЫХ ДУБАХ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
пры СНК БССР 1941 г.

*ЯКУБ КОЛАС*

# У СТАРЫХ ДУБАХ

*Апавяданні*








ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА пры СНК БССР
*РЭДАКЦЫЯ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ*
*МІНСК * 1941*



# ШКОЛА

## I

Ідучы па вуліцы, Міхась, сямігадовы хлопчык, часта затрымоўваўся каля аднаго дома ў сяле. Ён быў шмат большы і вышэйшы за нізенькія сялянскія хаткі і быў накрыты не саломаю, як усе будынкі, а гонтамі. Высокі ганак на таўстых круглых слупах значна выступаў ад даха і таксама быў накрыты гонтамі. Вялікія, светлыя вокны з белаю шалёўкаю і такімі-ж акяніцамі прыветна глядзелі на вуліцу. А над вокнамі, чуць не каля самага даха, была прыбіта невялікая дошка з нейкім малюнкам—ні то са зверам, ні то з птушкаю і двума галовамі. На дошцы стаялі нейкія значкі роўненькім радочкам; што то былі за значкі—Міхась не ведаў. Казалі, што гэта літары, якія можа разбіраць толькі той, хто будзе хадзіць у гэты

дом, а дом той завецца школа, і што літары гэтыя азначаюць цэлае слова. І Міхась усякі раз, як праходзіў каля школы, чуў у сабе нейкі страх, бо маці не раз яго страшыла гэтаю школаю, як ён часам пачне залішне гуляць у хаце.

— Ось хіба аддам я цябе ў школу!—казала яна.—Ось ты там падурэеш—паадкручвае табе вушы вучыцель.

А сябры яго, якія хадзілі ў школу, шмат расказвалі яму пра яе цікавага. Па іх расказу і школа і сам вучыцель зусім не былі страшныя, як то паспела ўжо злажыцца ў галаве Міхася. І ён сам на свае вочы бачыў кніжкі з усякімі малюнкамі, па якіх вучыліся хлопцы. Страх як хацелася яму мець такую кніжку. А як дастаць? Трэба ісці да школы: там толькі і можна дастаць кніжку. А дома пра школу і пра вучыцеля нагаварылі яму такіх страхаў, што Міхась, здалёк убачыўшы яго на вуліцы, бег як мага на агароды, у каноплі. Што-ж? а мо' вучыцель ведае, што ён добры жэўжык, ахвотнік падурэць, пакруціцца ці забегчы часамі ў чужы агарод або сад. Чуў Міхась за сабою гэтыя грахі і доўга сачыў вачамі з канапель, пакуль не схаваецца вучыцель з відавоку.

## II

Прышла восень. Асыпаліся лісці з дрэў. Агалілася зямля. Птушкі разляцеліся. Настали кароткія, туманныя асеннія дні.

Прышоў раз з двара ў хату бацька і кажа:

— Заўтра пачынаецца вучэнне. Пара і нашаму Міхасю садзіцца за лемантар... Годзе, брат, табе бібікі біць, ганяць сабак па вуліцы, пара і за навуку!

Апошнія словы бацька сказаў да Міхася.

Задрыжэлі ўсе жылкі ў Міхася. Цэлы рой думак разам пранёсся ў яго галаве.

«Што-ж?—падумаў ён сам сабе.—Вучыцца—дык вучыцца!»

Яму даўно хацелася ў школу, толькі баяўся ён настаўніка, баяўся за свае вушы. Ён думаў, што ў школе яго першаю справаю аддзяруць, як ката.

— Тата! ці б'ецца вучыцель?—спытаў не без трывогі Міхась бацьку.

— Як будзеш дурэць у школе, не будзеш слухаць вучыцеля, будзеш ленавацца вучыцца, то і будзе караць, ды і я сам не пахвалю цябе за гэта.

«Ну, не, брат, дудкі!—падумаў Міхась.—Дурэць то я не буду, а вось старацца дык буду».

І ў Міхася як камень зваліўся з сэрца.

Назаўтра ўстаў ён рана. Залатала матка яго сярмягу, ушыла гузікі, бацька справіў яму лапцікі.

Умыўся Міхась старанна, нават у вуха ўлажыў разоў са два пальцы, каб выкалупаць адтуль гразь. (Бацька не раз гаварыў яму, глянуўшы на яго вушы: «Ну, брат, у цябе і вушы: хоць рэпу сей!»).

Паснедаўшы на скорую руку і ўзяўшы ў адну кішэню лусту хлеба, у другую жмень тры гароху, Міхась памкнуўся ўжо ісці.

— Глядзі-ж, сынок!—спыніў яго бацька.—Слухай вучыцеля, бо нявучаны—усёроўна як сляпы, а граматны чалавек нідзе не прападзе. Каб я з маткаю цешыліся з цябе... Дык глядзі-ж, сынок, не траць дарма часу!

Гэтыя простыя бацькавы словы моцна кранулі Міхася, бо ў яго было добрае і мяккае сэрца.

У яго нават паказаліся на вочках слёзы...

Абцёршы твар рукавом сярмяжкі, ён вышаў з хаты і пабег у школу.

## III

Са страхам узышоў Міхась на ганак школы і нясмела ўзяўся за клямку.

У школе яшчэ нікога не было.

Школьная святліца паказалася Міхасю такою велічча, такім харастовм, што ён стаў пасярэдзіне і не смеў ступіць далей.

Усё тут для яго было нова.

Міхась азірнуўся і кашлянуў. Кожны вугалок падхапіў яго кашаль і панёс па школе доўгім шумам.

Міхась аж спалохаўся.

Аслухаўшыся, ён кашлянуў яшчэ раз, ужо сумысля, і зноў па школе пайшоў шум. Міхась пасмялеў. Ён падышоў да печы. Высокая кафля-

ная печ хораша прытулілася да сцяны, чыста і гладка выбеленай. Міхась павёў па печы рукою— пачуўся лёгкі свіст. Патрошкі страх Міхасёў зусім развеяўся, і ён смела стаў пазіраць на ўсё, што было ў школе. Недалёка ад печы стаяла чорная дошка на трох нагах. Між дзвярамі і другою сцяною прытулілася шафа са шклянымі ўверсе дзверцамі, за якімі стаялі кнігі роўнень-кімі радочкамі. На сцяне віселі, як прасціradлы, карты са стракатымі лапінамі. Яны, як Міхась пазнаў многа пазней, азначалі часці свету, моры, акіяны, усякія губерні, царствы, астравы. Над картамі віселі партрэты і ўсякія малюнкі. Большая палавіна школы была застаўлена доўгімі лавамі са скрынкамі. Гэта былі скамейкі, на якіх сядзяць вучні. Пасярэдзіне школы стаяў стол для вучыцеля.

На ганку затупала некалькі ног. Міхась схаваўся за печ. У школу ўваліла цэлая куча хлопцаў, яго сяброў, і Міхась, успеўшы ўжо агледзецца і азнаёміцца з класам, стаў паказваць ім тое, што найбольш кідалася ў вочы яму самому. Гуртам яны судзілі і здагадваліся, на што і для чаго зроблена ў школе кожная рэч.

— Зараз прыдзе вучыцель,—сказаў ім стораж.

Хлопцы прыціхлі, і страхам забілася іх сэрца. Яны кучкаю збіліся каля печы і сталі чакаць вучыцеля, самага страшнага чалавека, як ім здавалася.

## IV

Праз некалькі мінут прышоў вучыцель.

Ён прынёс з сабою вялікую кнігу з чорнымі вокладкамі, з наклеенаю на адным баку белаю паперкаю, чарніла і ручку і, паздароўкаўшыся з хлопцамі, паставіў чарніла на стол.

— Ну, што, браткі, вучыцца прышлі?—весела і прыветна спытаў іх вучыцель.

Некаторыя хлопцы маўчалі, а другія, і Міхась разам з імі, сказалі:

— Але!

— Ну, малайцы, хлопцы, будзем вучыцца.

Малады вучыцель з прыветным тварам і вясёлым, добрым смехам адразу спадабаўся Міхасю.

«І чаго я хаваўся ад яго ў каноплі?»—падумаў ён.

— Наўперад запішу я вас у журнал.—Так назваў вучыцель кнігу з чорнымі вокладкамі.

Сеўшы за стол і ўзяўшы ручку, ён пытаў хлопцаў, як каго завуць, як завуць бацьку, якая фамілія, колькі каму гадоў, граматны ці не, і ўсё гэта запісваў у кнігу. Запісаўшы ўсіх, вучыцель пасадзіў іх на скамейкі (прышлі адны толькі «навічкі»—тыя, што вучацца з першае літары).

Пасадзіўшы, вучыцель сказаў, як называецца той дом, куды яны прышлі, расказаў пра кожную рэч, што была ў школе, як павінны весці сябе вучні ў школе, для чаго трэба вучыцца, якая карысць ад навукі.

Потым ён пусціў хлопцаў пагуляць.

Пабегаўшы па дварэ, вучні зноў прышлі ў школу.

Яна ўжо не страшыла іх сваёю навіною. Хлопцы смела садзіліся на свае месцы і слухалі пільна, што казаў вучыцель.

Міхась і не замеціў, як прайшоў першы дзень навукі.

Весела пабег ён дадому расказаць, што бачыў і чуў ён у школе.

1907 г.





# ЧОРАН

## I

Каб не чорны бычок, то напэўна не было-б і гэтай бяды, бо на ўсё ёсць свая прычына.

Так ужо многа даставалася беднаму Цімошку з-за гэтага чорнага быка. Пападала яму ад чужых, пападала і ад сваіх. Але Цімох нічога не браў пад увагу і ўсё патураў свайму каханку, чорнаму. Ад таго бык гэты і называўся Чоран, што ўвесь быў чорны, як галка. Каб яшчэ больш дагадзіць яму, Цімошка сумысля запускаў яго ў шкоду, абы толькі людзі не бачылі.

І вось, бывала, калі ён гнаў каровак на пашу, то Кустрэй, што жыў на другой вуліцы, крыху пры канцы, кожны раз што-небудзь скажа яму, хіба на вочы не пападзецца.

— Ты-ж глядзі, лайдак, калі яшчэ раз пусціш быка ў мой авёс, то я з цябе юху спушчу!

Але трэба сказаць праўду: не так балеў Кустрэю гэты авёс, як калолі яму вочы гладкія бакі і таўсматы карк Цімохава бычка.

— Бач ты, як выгладзіў яго на чужой ярыне!

Цімошка толькі ўгнецца або зусім у другі бок паверне галаву, як-бы нічога не чуе, і моўчкі ступае за стадкам.

Ну, іншы раз і ён агрызнецца і скажа што-небудзь насупярэч зайздроснаму Кустрэю. Тады Кустрэй нажаліцца Юрку, Цімохаву тату. А Цімохаў бацька вельмі не любіў, калі чужыя людзі тыкалі яму ў вочы грубіянам-сынам.

— Ты што-ж гэта, злодзей ты, зневажаеш старэйшых?—ціха, з прыціскам і крыху нараспеў прыгаворвае Цімохаў бацька і круціць сына за вуха.

Што казаць—пападала-такі Цімоху.

Затое-ж, калі забярэцца Цімошка з кароўкамі ў лес, то ўжо там чуўся ён вольна, як-бы гэта быў не лес, а яго ўласная гаспода. Там ніхто не замінаў яму рабіць так, як сам ён лічыў найлепшым. Там ніхто не перашкаджаў выяўляць усю любасць да яго пастуховае справы. І куды толькі не забярэцца ён са сваім стадкам! І на ягаднік пагоніць, і па бары на верасы пусціць, і ўсе лужкі перабярэ.

Але таксама знаходзіў ён і вольную часіну, каб пагаварыць, паласкаць свайго чорнага бычка. Цімох пагарджаўся ім, хваліў яго, лічыў, што

такога бычка нідзе на свеце няма і быў гатоў біцца з тым, хто асмельваўся зганіць Чорана. Пазаве, бывала, Цімох свайго каханка, чухае яму за вушамі ці пад сківіцамі, адганяе камароў, смачнай травы, канапелькі нарве яму і куском хлеба пачастуе яго.

У самую большую радасць прывадзіў Цімоха рахманы Чоран тады, калі ён надумаецца сам прыйсці да свайго заступніка-дабрадзея.

— Ах ты, мой гарбузік! Што-ж ты хочаш сказаць мне? га? Пачухаць цябе? Дзе пачухаць? тут? Ах ты, пястун гэтакі! Ах ты, лайдачэўскі!..

Доўга размаўляе з ім Цімох і называе яго рознымі імёнамі.

Цімох не любіў кампаніі і стараўся меней стыкацца з пастухамі.

А калі і бывалі спатканні з імі, то вельмі рэдкія і то выпадковыя. Большую ўвагу да свайго пастухоўскага брата аддаваў Цімох Яхімаву Юзіку, бо то быў хлопец ва ўсім паслушны Цімоху і з ахвотаю выпаўняў усе яго загады, ніколі не рабіў і не казаў Цімоху напроціў. Юзік любіў Цімоха і чуў да яго шчырую прыхільнасць. А Цімох, калі на яго надыйдзе такая часіна, як разыйдзецца іншы раз, то Юзік аж за бакі хапаецца ад смеху. Вельмі-ж здацен быў Цімох па часці пераймання або перадражнівання каго. Асабліва ўмеў ён паказваць Кустрэя.

— Цімошка! братка! а ну, пакажы, як Кустрэй цябе лае!

Цімох паказвае, а Юзік аж на спіну ад смеху кладзецца.

— А-а-а ты, псялыжнік, зноў будзеш мне патраву рабіць? Вось як прыпільную, дык я на тваёй галаве патраву зраблю,—дражніць Цімох Кустрэя, прымаючы яго міну і становячыся так, як стаяў Кустрэй.—Выгладзіў свайго быка на чужой ярыне, каб цябе палкаю гладзілі! Пілат ты падпонскі, капшук занямонскі! Не пойдзе табе на карысць дабро чужое, шчанё ты малое!

II

Ужо пад самую восень забалела ў Цімошкі нага. Ці наверадзіў яе, за кароўкамі па лесе ходзячы, ці намуляў яе аборкамі, ці якая прычына, але нага забалела так, што Цімошку прышлося астацца дома і легчы ў пасцельку. Цяжкія і нудныя прышлі для Цімоха дзянькі. Ляжыць увесь дзень адзін каля печы. Праўда, матка сяды-тады падыйдзе да яго і прамовіць з ім слоўка. Але Цімоху здавалася, што яго закінулі, што ім не цікавяцца і не шкадуюць яго. І такі жаль агарне Цімоха, што не адзін раз на яго вочкі набягуць слёзы. Усе паразыходзяцца з хаты, астануцца адны малыя дзеці. Але што дзеці? Ці яны яму раўня? Ці з імі можна пагаварыць аб чым? Толькі што круцяцца, плачуць, б'юцца і дакучаюць. На кароткі час вечарамі забягаў да Цімоха Юзік. Гэта былі самыя светлыя моманты для Цімоха ў гэтыя дні.

У іх зачынаецца свая гутарка і ні на мінуту не змаўкае. Юзік не выстарчаў даваць адказы на Цімохавы пытанні. Яго цікавіла, галоўным чынам, усё, што датыкалася лесу і пастуховае справы: ці ёсць яшчэ трава, ці скасілі ўжо ў Лядзінах атаву, як наядаюцца кароўкі, хто пасе ў якім месцы. Пры гэтым, разумеецца, многа было размовы і аб чорным бычку.

Прыходзіць раз да Цімоха Юзік.

Зірнуўшы на Юзіка, Цімох здагадаўся, што зрабілася нешта вельмі важнае ў гэты дзень. Юзік прысеў каля Цімоха і маўчаў. Твар яго выцягнуўся, вочы былі спушчаны ўніз.

— Што-ж ты нічога не гаворыш?—запытаўся Цімох.

Юзік яшчэ ніжэй апусціў галаву і перабіраў пальцамі Цімохаў сеннічок. Нейкая думка вельмі засмучала яго, гнула і не давала спакою, але вымавіць яе ён не адважваўся.

— Ведаеш, Цімох... Чоран сёння біўся з Завозерскага Лысым.

— Ну?!—жахнуўся Цімох і падняўся на локцях.

— Збіў Чорана!.. — апаўшым голасам сказаў Юзік.

— Завозерскага Лысы... збіў Чорана...—марматаў Цімох.

Аж у вачах пацямнела ў беднага Цімоха, і хата з вокнамі закружылася.

Самае цяжкае і непрыемнае было вымаўлена; Юзік пачаў гаварыць крыху вальней.

— Але ведаеш, Цімошка, каб Завозерскага Антось і Схопаў Андрэй не памаглі, то Чоран змясіў-бы яго ў два заходы. І так Чоран два разы карк заламаў яму. Ніколі не збіў-бы яго Лысы!

— І яны білі яго пугамі?!—спытаў Цімох, бліснуўшы вачыма.

— Вядома, білі!

Цімох колькі хвілін не мог вымавіць слова. Ён чуў, што калі пачне гаварыць, то заплача ад крыўды, злосці і жалю. Але ў момант вока ў яго галаве злажыўся нейкі план, і Цімох досыць спакойна прамовіў:

— Ты-ж гані заўтра зноў туды; і я там буду.

Доўга не мог заснуць Цімох у гэты вечар. Ён усё думаў пра свайго каханка Чорана, як ён, бедны, біўся з Лысым. Так і стаяў у яго ваччу гэты малюнак бойкі. Вось ідзе Чоран, грозна ўхмыліўшы свой крэпкі карк. Насустрач яму наступае і Лысы, таксама нахмыліўшыся. Вось яны сышліся галовамі, шчапіліся рагамі! Ні той, ні другі не паддаецца. Ногі іх у зямлю лезуць, цела прыгінаецца да долу, самі злыя, языкі высунулі, гатовы адзін аднаго насмерць забіць. Вось Чоран зрушыў Лысага, папхнуў, папёр, адкідае яго крэпкімі штурханамі рагатае галавы. Лысы стараецца затрымаецца, упіраецца, не даецца, напружвае сілы. Нічога не памагае: сіла і спрытнасць на старане Чорана, і ён крэпкім ускідам галавы заламаў Лысаму карк. Лысы робіць апошняе натужэнне і зноў стыкае галаву з галавою. Чоран паддаецца крыху на-

зад, але гэта толькі хітрасць з яго боку: у момант вока тасkануў ён Лысага правым рогам ды зноў узяў яго пад карк. Вось-вось гатоў ён збіць Лысага і распісаць яму рогам бок каля пярэдняй лапаткі. Але падбягаюць Антось і Андрэй, б'юць Чорана пугамі. Бедны Чоран! Не каму было за цябе заступіцца!..

Чоран бяжыць, Чоран уцякае, а Лысы гоніць яго, святкуе свой няпраўдзівы верх. Цімоху здаецца, што вялікая крыўда моцна засмучае Чорана, што нават і цяпер адчувае ён гэту вялікую несправядлівасць. Цімох ляжаў, скрыгітаў зубамі, згортваў кулакі.

— Пачакайце-ж вы, свераноўскія заткалы: пагуляе мая пуга па вашых вушах!—пагражаў Цімох Антосю Завозерскага і Схопаву Андрэю. Гэтыя хлопцы былі з другое вёскі, Сверынава.

## III

Назаўтра Цімох абудзіўся рана. Ён не чуў цяпер болю ў сваёй назе: ён гатаваўся выпаўніць свой план. Вось як паразыходзяцца з хаты, то ён устане, адзенецца і пойдзе на Просцінку, дзе ўчора адбылася бойка Чорана з Лысым. Там, напэўна, застане ён свераноўцаў. Ну, тады вы трымайцеся!

Юзік ужо даўно пагнаў стадка. Вось і сняданне адбылося, і хата апусцела—усе паразыходзіліся.

Цімох сабраўся цішком, нікому нічога не сказаўшы. Ён вышаў з двара проста на поле і сцежкаю, прыкульгваючы, пашыбаваўся ў Крыніцы на

Залессе. Вось і лес, і стажок сена каля лесу. Гэта іх стажок, іх гордасць і надзея.

Нават сам Цімох парадаваўся, гледзячы на гэты стажок. Вунь там, каля тых дубоў, і Просцінка. Цімох накіраваўся туды.

Юзік ужо быў там і чакаў Цімошку.

— Няма,—адказаў Юзік панура, таксама набраўшыся злосці на свераноўцаў.

— Чакай-жа,—сказаў Цімох:—заварачвай стадка, пагонім у Чартавіцу: дзе-небудзь напаткаем іх, паганцаў!

Юзік паслушна завярнуў стадка. Кароўкі ў парадку адна за другою пацягнуліся ў лес. У сярэдзіне, збоку, важна ступаў Чоран, як-бы той бойкі і зусім не было. Хлопцы моўчкі ішлі ззаду з помстаю ў сэрцы.

Свераноўцаў нідзе не знайшлі.

Дзень ішоў к вечару.

Было хмурна, дзьмуў халодны вецер.

Цімохава абурэнне крыху ўлеглося. Было холадна. Хацелася есці. Таксама давала сябе чуваць і нага.

— Пагонім, брат Юзік, на Залессе.

— Пагонім,—згадзіўся Юзік і нават павесялеў, бо спатканне з свераноўцамі яго не вельмі прыцягала.

На Залессі, каля Цімохава стажка, хлопцы прыпынілі стадка. Гнаць дадому было яшчэ рана.

— А ведаеш што, Юзік, давай разложым агеньчык і пагрэемся.

— Давай!



Юзік кінуўся збіраць палачкі і сухія трэсачкі, каб шпарчэй разгарэўся агонь.

— Давай запалкі!

Юзік палез за пазуху і вынуў запалкі.

Цімошка прысеў, каб латвей запаліць падпалак, а Юзік абгарнуў яго халацікам, закрываючы ад ветру.

Сухія золькі хвоі затрашчэлі, шуганула полымя, і Цімох знячэўку апёк сабе руку. Раптам кінуў ён падпал. Набег вецер, падхапіў камячок сухой травы з агнём і панёс яго просценька ў стог. І не ўспелі хлопцы апамятацца, як насохшае сена палыхнула агнём, і стажок абвіўся жаўтавата-сінім дымам.

Цімох з пярэпалаху кінуўся наўцёкі. За ім пабег і Юзік. Вецер раздзімаў агонь, гуляў перагарэўшымі сцяблямі травы, і яны то чарнелі, то чырванелі, як-бы выскаляўся вецер з бедных хлопцаў.

Крыху апамятаўшыся, хлопцы борзда пагналі стадка далей ад гэтага месца, дзе яшчэ колькі мінут таму назад стаяў Цімохаў стажок.

— Ты-ж, Юзік, глядзі: калі скажаш каму пра гэта, то я цябе заб'ю. Заб'ю насмерць! Кажы, калі будуць пытацца, што каля стажка і блізка не былі! Цяпер я пайду дадому, а ты гані адзін. Кажы, што я каля цябе зусім не быў.

Пасля гэтага Цімошка, прыгнуты гэтым няшчасцем, пасунуўся дамоў. Дома ён ціханька лёг на сваё месца, ляжаў і думаў пра гэту бяду.

«Што-ж я нарабіў?»

— Дзе-ж гэта ты, сынок, цягаўся?—спытала матка.

— Так, хадзіў па дварэ,—ілгаў Цімошка.

«А можа сказаць маме?»—думаў ён.

«Не, не трэба. Усёроўна стажка не вернеш».

І ён ляжаў моўчкі, а думкі аб стажку не ішлі з галавы.

«А калі даведаюцца, што гэта—яго работа? Што тады?.. Ну, што-ж, няхай б'юць. Нават і добра было-б, каб набілі: на душы лягчэй стала-б... Але дзе яны возьмуць сена?..»

Да самага вечара ляжаў Цімошка і ўсё думаў. Цяпер ён стаў чакаць, як забядуюць і заплачуць жанкі, як засмуціцца яго бацька і брат Пятрусь, які складаў гэты стажок і так многа паклаў на яго надзей. Вось толькі пытанне: калі аб гэтым даведаюцца?

— Ты-б, можа, з'еў чаго, сынок?—запытала Цімошку матка.

— Не, не хачу. Нага стала горш балець,—пажаліўся Цімошка на сваю нагу, хоць яна і не так ужо балела яму.

— Чаго-ж бо ты цягаўся па надворку?—з ціхай ласкаю і разам з нейкім дакорам сказала маці і пайшла пыніць сваю работу.

Цімошка пільна і з трывогаю пазіраў на кожную новую асобу, якая паказвалася ў хаце.

«Вось зараз скажуць, што стажок іх згарэў».

Ужо вечарам, калі разлажылі на лучніку агонь, стала вядома, што згарэў стажок. Убег бацька.

— Ах, божа-ш ты, божа, спалілі наш стог на Залессі!

У хаце на адзін момант усе занямелі, а потым сталі бедаваць-гараваць.

Цімошка ляжаў ні жывы ні мёртвы, як-бы на яго наваліўся цяжар і здушыў яму нутро.

— І хто ж-бы мог запаліць яго? Пастушкі, няйначай.

— А можа хто па злосці якой падпаліў?..

Цімошка то чуў, што ўжо напалі на верны троп, то пераконваўся, што ніхто не ведае, як згарэў стог, і маўчаў зацята. Аб ім цяпер усе забыліся і не зварачалі на яго ніякае ўвагі.

Гора ўляглося. Пра стажок ужо меней гаварылі, з горам-бядою пагадзіліся ў хаце. І сам Цімошка крыху заспакоіўся.

Але на пяты ці на чацвёрты дзень зайшоў да Юркі ляснік, Варывода.

— Што-ж, брат Юрка, згарэў твой стажок?— сказаў Варывода.

— Згарэў,—прамовіў Юрка і ўздыхнуў.

— А ведаеш, як і з чаго ён згарэў?

Юрка падняў на Варыводу вочы і чакаў адказу.

Варывода зірнуў на Цімошку.

Цімошка затрымаў дух, як-бы над ім узнялі булаву, каб збіць яго адным махам.

— Цімошка спаліў табе стажок!—і так дакладна ўсё давёў, што не было ніякага сумнення.

— Ты-ж, гіцлю, чаму не прызнаўся?—спытаў Цімошку бацька,—а я мусіў грашыць, думаючы благое пра людзей!

А Варывода пераконана сказаў:

— Не, брат Цімох, як не хітры, а праўды не схаваеш.

— Я ненаўмысля, татачка, спаліў стажок!—сказаў Цімошка і горка заплакаў.

---

На Пакровы брат Пятрусь павёў у Клецк прадаваць Чорана, бо не было чым карміць.

1921 г.





# СТРАШНАЕ СПАТКАННЕ

— Вось што, Тараска: годзе ўжо табе каля рэчкі бегаць, а лепш занёс-бы ты дзядзьку полудзень на Высокі Бераг. Не палянуйся, сынок,—сказала мне матка.

Я быў хлопец паслушны і любіў, калі мяне за гэта хвалілі. Мяне таксама цікавіў і рум на Высокім Беразе. Вы, напэўна, не ведаеце, што гэта за штука такая «рум». Румам у нас называецца тое месца, куды вывозяць зімою калоды з лесу, каб вясною збіць іх у плыты і сплаўляць па рэчцы.

Усю зіму возяць туды калоды і навязуць іх, бывала, столькі, што загрузяць імі ўвесь бераг. А калоды ўсё такія тоўстыя, такія гладкія, роўныя,— паглядзець і то было люба. А колькі там было народа, колькі гоману, крыку і смеху! Проста, як на кірмашы.

Разумеецца, я з вялікаю ахвотаю згадзіўся занесці дзядзьку полудзень.

Яшчэ зранку, на досвіце, пайшоў наш дзядзька на рум біць калоды. У маім уваўражэнні яшчэ і цяпер жыва ўяўляецца гэты Высокі Бераг над Нёманам, дзе так страшна бушуе веснавая вада. Яна не тоўпіцца ў берагах, імкнецца напрасткі, на ачосы, выліваецца з берагоў і шырокаю стужкаю, хвалюючыся, бяжыць па нізкіх лагчынах, як-бы хоча барзджэй дабегчы ў нейкі далёкі-далёкі край, каб першаю прынесці туды якуюсь вельмі важную вестку адгэтуль. А самым цікавым для мяне было пабачыць, як з высокага яруса дрэваў кацілі ў Нёман калоды. Высока над вадою ляжаць гэтыя ярусы. Ад гэтых ярусаў да самай вады падложаны тонкія, доўгія бярвенні, каб калоды каціліся латвей і шпарчэй. На ярусах, як мухі, стаяць маладыя хлопцы і сталыя мужчыны з бомамі ў руках.

— Р-р-разам! р-р-разам!

Пагукваюць хлопцы і падважваюць бервяно. Узнялі, зрушылі. Бервяно коціцца што раз шпарчэй.

На момант усё заціхае.

З нястрыманаю сілаю імкнення і з громам бервяно падае ў ваду.

— Гу-у-у-у!—бухаецца яно ў Нёман, на момант знікае ў вадзе, і толькі цэлая сцяна срэбных пырскаў узнімаецца ў гэтым месцы.

Я жыва сабраўся, дастаў з пячуры сваю дубінку, бо ў лесе мог налучыцца воўк, а, седзечы ў хаце, я ўжо колькі разоў лупсаваў у сваіх думках гэтаю дубінаю воўка; узяў дзядзькаў полудзень і вышаў з хаты. На дварэ, каля хлява, на сухой кастрыцы ляжаў Галас, з якім я быў у вялікай дружбе. Убачыўшы мяне, Галас завіляў хвастом у знак прывітання.

Я свіснуў.

Галас падняўся, пацягнуўся і пазяхнуў. Але, як відаць, ён не выспаўся або так штось заленаваўся, бо не кінуўся адразу да мяне, як рабіў гэта звычайна. Ён прысеў на кастрыцы і задняю нагою стаў чухаць каля вуха.

— Галаска, цюцік! На, цю, на! На, цю, на!— пазваў я яго.

Галас, схіліўшы набок галаву, падышоў да мяне бачком, панюхаў дзядзькаў полудзень і зірнуў мне ў вочы. Я заўважыў, што ён быў не галодны. Гэтым і тлумачылася яго гультайства.

— Шукай зайца! шукай зайца!—крыкнуў я і пабег, каб гэтым самым уцягнуць і надаць руху гультаю Галасу.

Галас неахвотна пабег за мною, правёў мяне за кладку; але як толькі ўвайшоў я ў лес, мой Галас пачаў адставаць: сядзе на дарозе і сядзіць. А калі я аглядаўся, ён махаў хвастом, як-бы хацеў сказаць, што ў яго няма ніякай ахвоты ісці са мною.

Галас зрабіў мне яшчэ адну ці дзве ўступкі і сяк-так дайшоў да лесу. Але тут ён спыніўся каля першых хвояў, доўга нюхаў зямлю і ўжо не падымаў на мяне галавы, як яго не клікаў, і не зварачаў на мяне ўвагі. Панюхаўшы, Галас азірнуўся вакол, штось разважаючы, і трушком пабег краем лесу і знік.

— Ну, я-ж табе пакажу!—патрос я дубінкаю ў бок Галаса і пайшоў далей.

Гэта здарэнне з Галасам крыху парушыла той добры настрой, у якім быў я, выходзячы з дому.

Перш-на-перш мне было крыўдна: тая асоба, якую я лічыў сваім прыхільным сябром, якую не раз частаваў я вялікімі кавалкамі аладак і хлеба, за што мне часта пападала ад старшых у доме, аказалася зусім не такою, як гэта я думаў. Але гэта пачуццё крыўды скора прайшло, бо я меў натуру незлапомную, і яно змянілася другім пытаннем: чаму Галас не пабег за мною? У сваю чаргу гэта пытанне выклікала цэлы рад другіх пытанняў і здагадак: ці не думае толькі Галас, што я яшчэ настолькі вузел і карантыш, з якім яму, Галасу, сабаку сталаму і дарасламу, быць за панібрата і станавіцца на адну дошку не фасуе? І далей, ці не лічыць ён мяне такім нікчэмным, што ісці са мною праз лес па глухой дарозе ён проста не адважваецца па той прычыне, што я не магу даць ніякай забяспекі, а свая кашуля, кажуць, бліжэй да цела? Гэтыя пытанні ўжо датыкаліся майго гонару. І я, прызнацца вам, крыху

ўскіпеў. Я смела кінуў вачыма на лес, мацней сціснуў у руцэ сваю дубінку і яшчэ шпарчэй стаў перабіраць нагамі, падымаўся і стукаў шмат болей той меры, якая вымагалася ўмовамі хады. Затое-ж я чуўся смялей і гэтым дадаваў сабе той храбрасці, якой, на жаль, у мяне бракавала.

А лес быў стары і глухі. Па адзін бок дарогі стаялі больш ёлкі, але такія цёмныя і панурыя, што нічога добрага не казалі майму сэрцу. То там, то сям, паміж зялёных, сакавітых галінак, доўгімі кудламі звісалі пасмы сівага моху, якраз як тая барада жабрака Яноля, які заўсёды зражаў мяне сваёю сіваю барадою і наогул здаваўся мне страшным. І ці не Яноль толькі выглядае гэта вунь там з-за ёлкі? «Э, глупства!» сказаў я сам сабе і адвёў свае вочы з гэтай яліны, але ў мяне засталася нейкая непрыемнасць.

Чым далей падаваўся я ў гэты лес, тым усё болей глушэла. І галасы пташак, што так звонка нясліся з краіны лесу, цяпер змоўклі. Або іх тут не было, або яны проста не адважваліся падаваць голасу? Скарэй усяго, баяліся, бо птушкі наогул тут пападаліся. А самы лес рабіўся больш і больш непрыхільным, чужым, незнаёмым і, што горш усяго, варожым. Калі я пазіраў у бок лугу, які і прасвечваўся сквозь галіны лесу, мне было крыху весялей. Але як толькі я кідаў вочы ў процілежны бок, асабліва на гэта Палешукова балота, я чуўся не па сабе. Там цягнуўся вялікі лес, лес густы і стары. І пазіраў ён на мяне зусім не лас-

кава. Ён быў пахмурны і, як мне здавалася, не любіў, калі ў яго ўладарства асмельваўся заходзіць такі вузел, як я. Яго погляд ясна казаў:

— Ось пачакай—пакажу я табе, як аднаму хадзіць праз лес!

— А што ты мне пакажаш?—храбрыўся я.—Я цябе не баюся!

І тут-жа ў думках зазначыў сам сабе, што я сказаў нядобра: не трэба быць такім грубіянам, бо ўсё-ж такі гэты лес—мне не раўня, і ён гатоў яшчэ больш усердавацца і ўгневацца. І што яму абходзіць узяць і сапраўды пакараць мяне, кіўнуўшы якому-небудзь страху? Хіба мала ў яго гэтых служак?! І толькі падумаў я так, мае вочы самі, як-бы іх што прыцягнула, зірнулі ў падножжа старога лесу і затрымаліся на лясным страшылішчы—вывараце. Гэта была ўжо старая хвоя, вывернутая бураю. Яе доўгія жоўтыя карэнні, як вусы і лапы цёмнага страху, высока ўзнімаліся над зялёным мохам. Гэтыя лапы і вусы і жоўтая зямля між імі мелі вельмі страшны выраз і свой яркі і пэўны вобраз. Гэтаму-ж вобразу маё ўяўленне дадавала розныя формы і змест, варта было толькі затрымацца на іх крыху даўжэй. Я добра ведаў, што гэта—выварат, звычайная з'ява ў лесе. Мне прыходзілася сустракаць іх вельмі часта і разглядаць іх зблізку, унікаць ва ўсе іх схованыя каморкі, закарвашкі, і тым не меней я не мог вызваліцца ад пачуцця нейкага страху, якім пагражалі мне гэтыя вывараты. Мне здавалася, што

пад вываратам ці ў самым вывараце штось тоіцца і адразу можа выявіцца, але з таго боку і ў тым вобразе, якіх я ніяк не спадзяюся.

Цяпер я пачуў, што гэта дарога не так проста і лёгка, якою здавалася яна мне дома. І мне зноў успомніўся Галас. Цяпер я даваў больш пэўнае тлумачэнне яго паступку, калі ён не згадзіўся ісці са мною праз лес. Цяпер я зразумеў, што Галас, напэўна, счуў воўчыя сляды, калі ён так доўга затрымаўся ля першых хвояў, адкуль і вярнуўся дадому. Мне стала маркотна і сцішна. А гэтая дубінка, з якою я так казырыўся на печы, паказалася мне проста смяхотнаю.

А на палавіне мае дарогі, як сумысля, стаяў самы цёмны лес. Тут было найбольш страшнае месца дарогі, бо з гэтым лесам было звязана ў мяне многа розных апавяданняў аб страхах і розных выпадках, якія налучаліся тут з людзьмі. І гэта месца было ўжо блізка.

Самае важнае—мінуць лінію. Прайшоўшы яе, можна лічыць, што палавіну дарогі я зрабіў, бо ўжо далей пойдзе вясёлая палянка. Яна заўсёды сустракала мяне прыветна, як-бы яна мне спагадала. Там пачнецца яшчэ адна цёмная лагчына, праўда, невялікая; а там Доўгі Лужок, Бервянец, а за імі Высокі Бераг.

Мне страшна, але іду.

Ну, вось і лінія.

Якая яна роўненькая!

Яна перасякае мне дарогу. Адзін канец яе бяжыць кудысь далёка праз узгорак углыб лесу, а другі ідзе праз цёмны-цёмны ельнік і выходзіць на луг. Але цяпер луг аддаліўся, і я ўжо не бачу яго.

Я прайшоў яшчэ крокаў сто. Па правай руцэ цягнуўся ельнік уперамежку з маладымі хвоямі, а з левага боку пачынаўся бярэзнік. Гэта той самы бярэзнік, дзе летась наш дзядзька, ходзячы па грыбах, напаў на «неруш» і набраў цэлую сявеньку адлічных баравікоў-бярозавікаў. Тут пачыналася дарога на Млыновішча.

І толькі зірнуў я ў кут між гэтых дарог, як адразу спыніўся і аслупянеў. Валасы на галаве сталі падымацца і расці, шапка насунулася на вочы, а ногі страцілі спасобнасць пасування. Скура на мне шорхнула, сэрца замлела, а па ўсяму майму нутру пракацілася нейкая гарачая хваля. Сярод старых бярэзін, нагнутых тоўстымі камлямі над зямлёю і абросшых сівым мохам, стаяў звер!

Звер гэта быў незвычайнае велічыні. Асабліва вяліка была яго галава і наогул увесь перад. Масці ён быў шэрай, шэрсць меў кудлатую і доўгую.

Першы момант анямення і адзервянення прайшоў, і мыслі мае пачалі крыху варушыцца і выяўляць сваю работу. Я нават перастаў адчуваць

уплыў страху і ціханька, зусім без слоў, заспяваў сам сабе песню:

Ходзіць свёкар па двару,
Расчасаўшы барaду.

Гэтаю песняю мяне часта дражнілі дома, бо калісь я яе спяваў, неміласэрна гаркаючы—я не мог тады вымавіць чыста «р», а казаў «рла»,— гэта і паслужыла прычынаю таго смеху, ад якога я часта аж на сцяну лез.

Чаму яна, гэта песня, прышла цяпер мне на памяць—я не магу растлумачыць.

А звер стаяў на адным месцы, загарадзіўшы мне дарогу. Ён стаяў нерухліва, толькі зрэдка, і то чуць-чуць заметна, варушылася яго страшная галава і велізарныя вушы. Думкі аб тым, як размінуцца з гэтым зверам і як занесці дзядзьку полудзень, у мяне не было, бо я быў цвёрда пэвен у тым, што далей таго месца, дзе я стаю цяпер, я не зрушуся ні на адзін крок. Разгледзеўшы звера, я пераканаўся, што гэта быў воўк. Я колькі разоў бачыў ваўка, але такога вялікага і страшнага мне не прыходзілася бачыць ніколі.

«Чаго-ж ён так узіраецца на мяне? Чаму ён не кідаецца і не хапае?.. Эх, Галас, Галас! Чаму ты не пабег са мною?»—Мяне ахапіў нейкі жаль, і я гатоў быў заплакаць. Мне так шкода стала свайго дому, мамы і таты, братоў і сясцёр!—«Эх, мілы мой братка Алесь! І за што толькі дражніўся і біўся я з табою! Ох, гад-жа я, гад печаны!

Як толькі хапала ў мяне дзёрзасці сказаць табе кепскае слова і падняць на цябе руку! Як мог павярнуцца мой язык, каб сказаць на цябе «Булавешка»?

Я быў цяпер у становішчы той мухі, якая заблыталася ў павуцінне, а павук ужо рыхтаваўся, каб высмактаць з яе ўсе сокі.

«І што мне рабіць? Чаго стаіць гэты праклятый воўк? Чаму ён не душыць мяне? Чаго ён мучыць?»

А воўк, як-бы насміхаецца з мяне, стаіць, пазірае, зачароўве мяне сваім звярыным поглядам.

Мімаволі я пачаў памаленечку адступаць назад, не спускаючы вачэй з воўка. Воўк нічога—стаіць! Мне стала чуць лягчэй. Я ступіў назад яшчэ, яшчэ. Ужо крокаў дваццаць адышоўся я такім парадкам. Воўк чуць-чуць ужо відаць, але не варушыцца.

Павярнуўся тады я—у адной руцэ палка, у другой збан з дзядзькавым полуднем—і як засмаліў, як прылёг! Азірнуўся назад тады толькі, калі з лесу пачала выплываць наша хата. Тут я спыніўся, пайшоў ціха і важна, думаючы аб тым, як павесці дома апавяданне аб гэтым выпадку.

На двары мяне сустрэў Галас і кінуўся да мяне кулём.

— Ідзі, ідзі: я цябе пачастую!

І як толькі Галас хацеў падскочыць, каб лізнуць мяне ў твар, я злосна штурхануў яго нагою.

— А каб ты апруцянеў, нягоднік ты!

Я ўвайшоў у хату.

— Чаму-ж ты вярнуўся,—спытала мяне мама.

Я стаў расказваць, што было ў дарозе.

Расказваў я далёка не так складна, як гэта было ўжо злажылася ў маёй галаве.

Матка выслухала мяне ўважліва, але не сказала таго, што ўсё гэта спатканне—плод майго палахлівага ўяўлення.

А як вечарам прышоў з лесу мой тата і сказаў, што ў Пятровіцах (якраз недалёка ад месца, дзе быў гэты выпадак) воўк патрывожыў пастухоў і авечак, то ўсе ў нас дома пераканаліся, што я сапраўды спаткаўся з воўкам.

Тыдні праз два давялося мне зноў ісці па гэтай дарозе. Але цяпер я быў не адзін—я ішоў на крок ззаду за сваім айцом. Прышоўшы на гэтае самае месца, я зірнуў туды, дзе стаяў воўк.

І што-ж вы думаеце?

Гэты самы воўк стаяў і цяпер!

Нічога не сказаў я свайму айцу, іду і пазіраю.

Бадай-жа ты спрахла: гэта была старая крывая бярэзіна, абросшая мохам і нахіленая над долам!

Я баяўся смеху і нікому не казаў аб гэтай памылцы і толькі цяпер, мае дарагія, прызнаюся вам ва ўсёй гэтай праўдзе.

1922 г.





# „ДЗЕРАВЕНШЧЫНА“

Як яно будзе далей, сказаць трудна. Скарэй усяго, што кепска; і сам Міхалка так думае, стоячы на каленках па некалькі разоў на дзень.

Ён ужо кінуў і жаліцца сабе самому на сваю долю і пакорна згінаў калені ў куточак. І гэты куточак стаўся яму нават блізкі, як-бы родны. Ды яно і не дзіва: тое месца, дзе ронім мы першыя слёзы і пакідаем частку сябе саміх, становіцца дарагое для нас. А ў гэтым кутку Міхалка многа чаго перадумаў. І адзін толькі ён, гэты куток, знаў усе яго думкі, бо пагаварыць тут няма з кім.

Ох, гэты горад! На пакуту сюды ўзялі малога Міхалку. А горш за ўсё, дык гэта тое, што ніхто тут яго не шкадуе, ніхто за яго не закіне слова. А часамі выскачыць ён на двор, куды забяжыць

знячэўку які сабака, можа такі самы непрыхільнік у горадзе, як і сам Міхалка,—каб хоць з сабакам адвесці душу. І толькі пачне Міхалка заводзіць знаёмства з ім, кінуўшы яму перад гэтым кусочак хлеба (а хлеба, не ўкраўшы, не возьмеш), як ужо братавая барабаніць рукою ў шыбу.

Міхалка ўжо ведае, што яму рабіць: ідзе ў хату і займае свой куточак, становячыся на калені. Сам Міхалка, калі хто выпадкам запытае, чаго ён стаіць на каленках, тлумачыць так: я яшчэ—«дзеравеншчына», не знаю гарадскіх парадкаў і кепска трымаю сябе. От з мяне і выбіваюць «дзеравеншчыну».

— А ты любіш вёску, паехаў-бы туды?

Раней, чым адказаць, Міхалка баязліва азірнецца і ціханька скажа:

— Паехаў-бы.

Праўда, Міхалка нядаўна прыехаў з вёскі. Але гэта толькі гаворка адна—«прыехаў». Проста забралі яго сюды—і ўсё, бо дома не было дзе дзецца. Бацька памёр, маці памёрла, от і забралі яго сюды. Цяпер ужо нічагутка—прывык; але спачатку дык было надта кепска. Сядуць, бывала, за стол. На маленькім століку каля дзвярэй стаіць самавар: скавыча ён на ўсе галасы або пішчыць, як тая свіння ў плоце, аж пара з яго верне. На стале стаіць масла; тут-жа ў місцы ляжаць цэлыя кавалкі мяккай і белай булкі і такая, на яе

ліха, цікавая, што Міхалка не можа адарваць ад яе вачэй.

— Чаго ты ўтаропіўся, як воўк на парасё?

Міхалка спускае вочкі і бярэцца за гарачую шклянку і тут-жа борздзенька адрывае ад яе апечаную руку. Шклянка з гукам кідаецца на сподак. Чай, як-бы яго чэрці таўхануць, разліваецца па стале і на порткі Міхалку. Міхалка хватаецца з крэсла і стаіць, расставіўшы рукі.

— Свінюк ты!—чуе ён сярдзіты голас брата.

— У карыце трэба цябе карміць,—дадае братавая.

Згарэў-бы ты лепей, гэты чай і гэта булка, якая ўжо цяпер і ў рот не лезе Міхалку.

А калі абходзіцца без таго ліха, то, выпіўшы шклянку, Міхалка павінен быў падзякаваць. Тут зноў не заўсёды абходзілася шчасліва. Заміж «благодарю», ляпне Міхалка ні к сялу ні к гораду «дзякую».

Што за «дзякую»?!.

Міхалка чуе, што вушы яго чырванеюць. Яму неяк сорамна сказаць «благодарю»,—здаецца, усе яго на смех падымуць.

Але ўсё гэта было раней. Цяпер ён навучыўся казаць «благодарю» і «благадарыць» і калі трэба і калі не трэба. Ды зноў-жа, з адным «благодарю» на свеце не пражывеш:—зноў знойдзецца якоенебудзь ліха. А што гэта ліха не зводзілася, то можна было бачыць хоць-бы і з таго, што Міхалка па колькі разоў у дзень стаяў на каленках.

То скажаш не так, то ступіш не гэтак, і за ўсё пападала то вушам, то каленям. Дайшло да таго, што Міхалка маракаваў на вушы і калені. Няхайбы былі сабе дзірачкі ў галаве, але на чорта былі яшчэ гэтыя храсткі? Або ногі? ці не лепш было-б, каб яны не згіналіся? Тут Міхалка прабаваў хадзіць, не згінаючы ног.

Выходзіць, што можна. Найгорай было яму вясною і летам, калі сіняе неба ласкава звесіцца над зямлёю, як маці над калыскаю, дзе ляжыць яе любое дзіцятка. А гэтыя хмурынкі! Хто іх ведае, адкуль яны павыпаўзаюць і куды ідуць так згодненька, такія мілыя ды прыветныя. От-бы ўзяў ды сеў на іх і паплыў-бы разам з імі, каб толькі далей быць адгэтуль. Сонейка так харашанька заглядае ў вокны. У садку шчабечуць птушкі. Верабейчыкі з вясёлым чырканнем снуюць у паветры.

Міхалка доўга пазірае ў акно. У канцы у яго нехапае сілы працівіцца кліку вясны, і ён, азірнуўшыся, каб яго не затрымаў хто, ціха выходзіць на двор.

Прытуліўшыся дзе-небудзь каля вугла, доўга стаіць Міхалка. У гэтыя мінуты ён нічога не думае. Ён толькі чуе, як прыемнае цяпло песціць яго маленькае цельца. І добра так і радасна на сэрцы. А што робіцца на душы, то гэтага і не скажаш. Толькі часамі замігацяцца родныя з'явы далёкай вёскі, дзе Міхалку так вольна жылося, і сэрца неяк ападзе, калі ўспомніць ён сваё тут жыццё. Там,

на вуліцы, чуваць, як тупаюць па тратуарах ногі, як грукаюць капытамі па бруку коні, як шуміць і гудзе многагалосны горад.

Доўга стаіць так Міхалка. Потым, ні з таго ні з сяго, захочацца прабегчыся, і ён, як куля, рванецца на двор, ганяецца за верабейчыкамі, покі братавая не крыкне на яго, каб ішоў забаўляць Лідачку.

Усе чары прападаюць у яго душы, і, уздыхнуўшы, нехаця пляцецца ён у хату. А тут яшчэ горай апануюць яго думкі, яшчэ мацней пацягне яго на двор, яшчэ з большаю сілаю, яшчэ ярчэй устануць прад вачыма дзіўныя малюнкі роднай вёскі.

Дом, дзе жыў Міхалка, стаяў на краю горада. Глухаватая вуліца, наабапал якой ляпіліся дзеравяныя домікі, скора выхадзіла за горад, у поле. Міхалка не адзін раз выбягаў на гэту вуліцу і нюхам вясковага чалавека ўгадваў, што недалёка тут павінна быць поле. Раз ён, выбегшы на вуліцу, адышоўся ад дому. Тут ён ужо не мог стрымацца і пабег да таго ўзгорка, што вясёла пазіраў жоўтым скатам сваіх пяскоў. Міхалка ўзляцеў на гэты ўзгорак. Унізе рассцілаўся горад з блішчастымі вежамі цэркваў і касцёлаў. То там, то сям высока ў небе тырчалі трубы фабрык і заводаў, распускаючы па ветры доўгія хвасты чорнага дыму. А з другога боку раскінулася поле, чарнеўся лес і вясёлыя пералескі, а там, яшчэ далей, чуцьчуць выступалі з сіняватай смугі стрэхі сялянскіх

хат. І так моцна пацягнула Міхалку туды, што аж душа яго млела. І так ярка прыпомнілася яму свая вёска, што, каб меў крыллі, то ўзняўся-б і паляцеў-бы. Міхалка ўсё цікаваўся ў адзін бок. Там, здавалася яму, павінна быць дарога да роднай вёскі. Божа мой! як добра ў вёсцы! От Міхалка стаіць тут, на гэтым узгорку, а яна вось-вось, здаецца тут, перад самымі яго вачыма. І так ясна, як цяпер, не бачыў ён яе і тады, калі жыў у ёй. Вось высокі касагор над самым Нёманам. Пад гэтым касагорам стаяць пахіленыя старыя вербы, дзе так многа было калісь ракаў. Там ляжыць зялёны луг, а за лугам цягнецца высокі і заўсёды пануры лес. Гэтага лесу Міхалка калісь баяўся. Асабліва нешта страшнае і непрыветнае прыдаваў яму густы алешнік, што зялёным доўгім валам цягнуўся каля самага лесу. Цяпер-жа гэты лес быў такі мілы і жаданы, што каб прымеў, то абняў-бы яго і цалаваў. Міхалка так задумаўся, што не чуў, як да яго падышоў брат.

— Чаго ты тут, шыбельнік?—спытаў брат і крэпка пацягнуў Міхалку за вуха.

Міхалка задрыжэў увесь, як злоўлены праступнік.

— Пайшоў дадому!

Хлопчык, прылажыўшы руку да вуха, якое быццам гарэла на агні, пабег дамоў, не смеючы зірнуць у бок.

За самавольства забаранілі яму гуляць на двары. Але Міхалка не абразуміўся.

Куды там! Ён задумаў такую рэч, што ўсе дзівіцца будуць. А покі што ціхачом ён рыхтаваўся споўніць тое, што задумаў. У самы глухі куток пад ложкам, дзе нават венік служанкі іх, Насты, рэдка калі зазіраў, складаў Міхалка розныя прыпасы на дарогу, бо Міхалка задумаў уцякаць адгэтуль. Тут ён запасіў з восем кусочкаў цукру, акрайчык хлеба з асушкам. Праўда, хлябок высахне, але Міхалка знойдзе ў дарозе крынічку і размочыць яго. Усе гэтыя прыпасы ляжалі на газеце, якую Міхалка цішком узяў са стала. Разам з гэтымі прыпасамі ляжаў мячык і чалавек з гумалястыкі, у якога трэба было толькі дзьмухануць, каб ён загукаў, як жывы. Усё гэта Міхалка адкраў ад Лідачкі. Мячык і чалавечка ён дасць сваім сябрам, бо хто-ж ідзе з горада без гасцінца? Асталося толькі пашыць торбачку, каб забраць увесь скарб з-пад ложка. А там... ад адной гэтай думкі лёгка рабілася на сэрцы.

А наўперад ён яшчэ па дарозе зойдзе ў тую вёску, дзе яго брат служыў летась. У гэтай вёсцы Міхалка згубіў многа грошай—капеек пятнаццаць медзякамі. А знайсці іх лёгка, бо Міхалка, як цяпер, бачыць тое месца, дзе згубіў іх; не знайшоўжа іх тады затым, што скора перабіраліся ў горад і не было калі пашукаць, як належыць быць.

Доўга не мог заснуць Міхалка ў суботу вечарам перад Сёмухай: заўтра рана, досвіта, выберацца ён у дарогу. У тых думках, што цяпер мітусіліся

ў яго галаве, трудна было разабрацца... Э, ды што!

Устане і пойдзе: пойдзе перш да таго ўзгорка, адкуль ужо лёгка папасці на дарогу... Скарэй-бы толькі заснуць ды ўстаць заўтра раней. Міхалка плюшчыў вочы, але сон, як сумысля, не ішоў да яго, і толькі можа пад поўнач заснуў Міхалка. Не гледзячы на гэта, устаў ён ранютка, асцярожна падняў галоўку, разгледзеўся, прыслухаўся. Брат і братавая спалі; нават гэта жаба, Лідачка, і тая не рушылася. Ціханька адзеўшыся, Міхалка павольненька выцягнуў сваю торбачку, у якую яшчэ з вечара зклажыў ён усе свае рэчы. Прыгатаваўшыся, як мае быць, ён яшчэ раз азірнуўся і, трасучыся ўвесь, падкраўся да дзвярэй і ўзяўся за ключ. Павярнуў раз і абамлеў: ключ, на яго ліха, так загрымеў, што напэўна ўсе абудзіліся. Са страху Міхалка выпусціў з рук торбачку. Усё было ціха. Відаць, ніхто не чуў. Узяўшы торбачку, Міхалка ціха скрыпнуў дзвярыма і вышаў на двор.

Не ведаю, ці на дабро ці на няшчасце Міхалкі вароты на дварэ былі замкнёны; агарожа-ж была такая высокая, дашчаная, што ўляпіцца было недзе. Колькі мінут Міхалка хадзіў на дварэ, шукаючы пералазу. І не думаў ён ніколі, што гэтае здарэнне папсуе яму ўсю справу! Можа-б і пералез як, але, на бяду, трэба было якраз выйсці на двор яго брату!

Міхалка думаў, што ўжо яму цяпер будзе канец—так крэпка лупіў яго брат.

І што ты зробіш, калі не шанцуе? Міхалка, як і наўперад, жыве ў горадзе і толькі тым і цешыць сябе, што тады, напэўна, будзе яму палёгка, як выб'юць з яго «дзеравеншчыну».

1913 г.





# У СТАРЫХ ДУБАХ

Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся па беразе Нёмана.

Такіх дубоў цяпер рэдка дзе ўбачыш. Іх не чапіла рука людская, толькі доўгія часы палажылі на іх свой след—пячаць глыбокай старасці. І многа ўсякіх змен часаў бачылі гэтыя нямыя сведкі прошласці! Жыццё многіх людскіх пакаленняў прайшло перад імі і праходзіць, бы тыя хвалі Нёмана, што пакручастым змеем абвівае тут іх сялібу, іх высокі, роўны груд; а яны ўсё стаяць, спакойныя, важныя, і жывуць сваім асобным жыццём. Праходзяць дні, ідуць сваёю чарадою зімы і леты з іх халадамі і спякотамі, з іх бурамі і навальніцамі, а яны спакойны, як чалавек, які ўсё пераведаў на свеце, усё перажыў і ўжо нічога новага не чакае ад жыцця, апроч смерці. Зваленыя-ж на дол тоўстыя камлі з асмаленымі знізу

жараламі іх таварышоў напаміналі жывым аб апошняй іх долі.

У леце пачыналася ўжо тая чуць значная змена, той паварот часу, калі жыццё прыроды ідзе на спад. Скошаны луг і раскіданыя курганамі стагі, парыжэлыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым уміранні. Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі па грудах або ляніва аглядалі лагчыны. Але было заметна, што не на пажытак пазбіраліся яны сюды, а для нейкай іншай справы. Пастаяўшы, павольна адзін за адным уздымаліся яны ўгару, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх усё вышэй і вышэй. Там яны спляталіся ў адну фігуру, у адзін шырокі круг і, не махаючы крыллямі, плаўна і згодна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх нябёсаў... Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках бусляных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістом, і купалі на сонцы свае адвечныя лапы.

На скошаным лузе, недалёка ад дубоў, пасвіліся стадкі. Там і сям сядзелі пастушкі. У кожным іх гуртку былі свае інтарэсы, свае забаўкі і гутаркі. Сонца даўно ўжо звярнула з поўдня, але свяціла яшчэ горача. У паветры было ціха, толькі звон летнікоў (кузуркі, падобныя да пчол) зліваўся ў адну доўгую-доўгую аднатонную песню, і, здавалася, прырода была закалыхана гэтым крыху сумным звонам. Маленькія камарыкі-таўкунчыкі кучкамі гулялі на сонцы, як-бы чыясьта нявідная рука трасла ў паветры маленькую сетачку.

— Чаго яны таўкуцца тут?—спытаў Грышка свайго таварыша Базыля і махнуў рукою па кучцы камарыкаў.

— Гуляюць,—кажа Базыль:—ты думаеш, і ім не хочацца пагуляць? Цяпер іх час, і гуляюць.

Базыль і Грышка—найлепшыя дружакі. Даўно ўжо цягнецца іх дружба—як запамятаюць. Дзве зімы ў школцы сядзелі яны на адной лаўцы і трэцяе лета пасуць разам кароўкі.

Калі каторому маці дасць у торбачку сала, то гэтае сала разрэзвалі па палове і пяклі яго на ракончыках. А смачнае сала, спечанае над агнём у полі! Прыгнаўшы з раніцы, хадзілі разам лавіць рыбу і купацца.

І ні з кім яны не злучаліся і, апроч свае кампаніі, другой не хацелі. Раз толькі сварыліся хлопцы і пасварыліся за глупства—за ножык-цыганчык, якому ўся цана—тры грошы. І толькі ў злосці назваў Грышка Базыля Насалём—у Базыля быў даўгаваты нос,—а Базыль Грышку абазваў Рабэйзаю.

Але рэдкія здарэнні лаянкі толькі на кароткі час раскідалі іх дружбу, і хлопцы скора зноў гадзіліся, пасля чаго Базыль, водзячы пальцамі па носе, гаварыў:

— Здаецца, мой нос, Грышка, не такі ўжо вялікі?

— Твой нос—мерны нос. Вось я дык праўда рабы!

Гаворачы так, Грышка хацеў учуць пацверджанне Базыля, што ён не так-та рабы, бо сам Грышка не лічыў сябе рабым.

— Што тваё за рабаценне!—казаў Базыль:— зімою зусім не знаць, а цяпер проста сонца трошкі асмаліла твар.

І хлопцы зноў былі дружакамі і пачыналі гульню або гаворку аб чым-небудзь. Гаворка ў іх бадай ніколі не зводзілася, а вакруг было так многа ўсяго, што давала ім страву для гутарак... Улягуцца часамі хлопцы пад дубам. Грышка ляжа на спіну і колькі мінут моўчкі ўглядаецца на той дуб, пад якім яны ляжалі.

— Як ты думаеш, Базыль: ці ёсць на свеце такі чалавек, які панёс-бы гэты дуб?

Базыль акідаў вокам дуб і, крыху падумаўшы, казаў:

— А пэўна ёсць.

І тут-жа расказваў свайму сябру здарэнне з якім-небудзь асілкам. Так адзін селянін (Базыль нават назваў яго прозвішча) паехаў красці хвою ў княжацкі лес. Ссек ён такую таўстую хвою, што і два чалавекі не абнялі-б яе. Узваліў на воз і паганяе каня. Конь—ані з месца! А якраз насунуўся ляснік. «Стой-жа,—думае ён,—нідзе ты не дзенешся: не ўцячэш ты з гэтай хвояй», і сам пазірае, што будзе далей. Чалавек гэты, нічога не гаворачы, выпраг каня, прывязаў яго да канца калоды і сказаўшы: «няхай-жа будзе брыдка каню», узяўся за аглоблі і пацягнуў калоду. Ляснік

толькі галовою пакруціў—і слова не сказаў селяніну.

— Вось каб мы былі такія дужыя, усіх-бы зарэчанцаў пабілі!—уздыхнуўшы, гаварыў Грышка.

— Вось дзіва! што-ж іх тады біць: дзьмухнуў-бы, і ўсе-б пакідаліся.

— А ці праўда, што наш Нічыпар Шулай дужаўся з чортам?—запытаўся зноў Грышка.

— Не-ж не: у яго самога чортава рабро—яго ніхто не пакоціць.

— Ну, ніхто! а калі ў каго два рабры?

— Ведама, пaборае той, у каго два... Але мусіць той, хто мае чортава рабро, пойдзе ў пекла,—памаўчаўшы, зноў сказаў Базыль.

— Чаму ў пекла? Ён-жа родзіцца з гэтым рабром.

Базыль на гэта нічога не адказаў і задумаўся.

— А каб табе, Базыль, сказалі: «Умірай цяперака і ты пойдзеш у рай». Ці згадзіўся-б ты ўміраць?

— Не!—адказаў ён.

— Чаму?

— Мне было-б там маркотна аднаму; а тут усе: бацькі, хлопцы, ты. Каб са ўсімі, то пайшоў-бы.

— І як гэта памрэ чалавек, што з ім робіцца?—як-бы сябе самога пытаў Грышка.

— Што-ж? душа выходзіць. Прыдзе смерць—і памрэш. Зяханеш разоў два—і няма!.. Я бачыў, як уміраў мой дзед Гаронім. У хаце мы былі адны з дзядзькам. Як дзед сканаў, дык дзядзька адчыніў комін.

— Навошта?—спытаў Грышка.

— Каб душа выходзіла... І страшна, брат, страшна стала!

— Я-б у хаце не ўседзеў!—страпянуўшыся, сказаў Грышка і потым дабавіў.—Вось каб яе перуны, з гэтаю смерцю. Каб злавіў дзе, халеру, ды спаліў. Тады людзі жылі-б і жылі.

— Калі-ж бо для яе няма смерці.

— У смерці няма смерці.

Сказаўшы гэта, Грышка ўглыбіўся ў думкі.

— Што-ж, брат, каб гэту смерць узяла другая смерць, дык зноў-бы смерць асталася. Ніяк, брат, ад яе не выкіруешся.

— А што, Грышка, калі я памру і па смерці буду прыходзіць да цябе, ці будзеш ты баяцца?

— Кіньма гаварыць! чорт яе бяры з смерцю,—сказаў Грышка, падняўся, азірнуўся і пачаў свістаць, каб адагнаць паганыя думкі.

Хлопцы сціхлі і задумаліся.

Было тут у дубах адно месца, дзе Базыль любіў сядзець, пазіраць і думаць.

Гэта было тое месца, дзе над абрывістым берагам Нёмана стаяў стары, прысадзісты, таўсты дуб. Ад доўгіх часоў бераг, падмываны вадою, паволі асоўваўся і агаляў тоўстае карэнне старога дуба. Сам гэты дуб крыху пахіліўся набок, як падгуляўшы гаспадар; а аголены і працягнуты пад вадою яго корань здаваўся нагою, і выходзіла здалёк так, што дуб збіраўся перабрысці Нёман. Сеўшы на гэтым корані, Базыль пазіраў,

як бегалі дробныя хвалі, як звівалася ў вадзе доўгая раса; вада то ўздымала яе, то апускала, то раскідала ва ўсе бакі і гуляла ёю, як вецер дымам.

Каля самага берагу стаяў у вадзе голы лазовы ражон. Ён тое і рабіў, што борздзенька ківаўся пад напорам вады. І ніколі не меў спачыну гэты ражон: і ўдзень і ўночы ківаўся ён. Хіба можа зімою, як марозы скуюць лёдам ваду, адпачыне гэты пахілак-ражон.

Базыль пазіраў і думаў.

А вакруг было ціха. І Базылю здавалася, што ён чуе спевы гэтай цішыні. Доўга ён прыслухоўваўся, але спевы былі нейкія невясёлыя, і яму стала маркотна: усё ішло, здавалася яму, сваёю дарогаю і жыло сваім жыццём, сярод якога ён пачуў сябе чужым.

А Грышка тым часам бегаў каля ракі і скідаў у ваду навіслы бераг. Якраз на тым баку ішоў з вудамі рыбак.

Пабегаўшы па беразе яшчэ колькі часу, Грышка пайшоў шукаць Базыля. Углыбіўшыся ў свае думкі, Базыль нічога не заўважыў і сядзеў усё на тым-жа дубовым карэнні, дзе сядзеў і раней. Звесіўшы ногі над вадою, пазіраў ён уніз, як цёк Нёман. Тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіні. Аб чым-жа думаў хлопчык? Відаць, нешта важнае і сур'ёзнае, бо губы яго былі шчыльна самкнуты, а вочы пазіралі куды-та ўглыб. Схаваўшыся за куст, Грышка моўчкі паглядаў за

сваім сябрам. І без усякай злой мыслі раптам вылецеў з-за куста і гукнуў на ўсю моц:—Га-а!

Знячэўку Базыль так перапалохаўся, што ўвесь задрыжэў і падскочыў. Спужаўшыся, ён не мог ужо ўтрымацца і ссунуўся ўніз. На момант зачапіўшыся лапцем за дубовы корань, павіс галавою над гладдзю вады, а потым шугнуў... і прапаў з вачэй. Нёман злёгку здрыгануўся, вада расступілася і дала няшчаснаму хлопчыку месца ў халодных сваіх нетрах, ды колькі кругоў пабегла па вадзе ва ўсе бакі. Разы два ці тры паказалася яго галава; рука нязграбна і сударажна лавіла паветра; зрабіўшы поўкруг і захлёбваючыся, прапаў назусім...

Грышка не ведаў, што так можа кончыцца яго дурасць, і ён падняў прарэзлівы крык і лямант:

— Ратуйце! утапі-іўся! Гвалт, людзі, ратуйце!

Другія пастушкі збегліся на крык і прылучылі свой лямант.

Рыбак дабег першы. Скінуўшы адзежу, адважна рынуўся ён у ваду.

Збегліся людзі.

Заламаўшы рукі, маці разрываючым душу крыкам галасіла і прычытала. Як непрытомная, кідалася яна ў ваду, тады яе трымалі мужчыны...

Сонца таксама пазірала любоўна і на гэту з'яву; таксама было ціха ў прыродзе, і ўсё жыло сваім жыццём. Старыя дубы стаялі спакойна, важна, як і заўсёды. Толькі галкі, спуджаныя людскім крыкам, пазляталі з дубоў, ды сівава-

варонкі з сярдзітым краканнем кружыліся над дуплястымі дзеравякамі, як-бы злуючы на тое, што патрывожылі без усякай прычыны іх прывольны спакой, і ззялі на сонцы сваім зялёным пер'ем.

Базыля выратавалі і адкалыхалі, але пасля такога здарэння ён стаў ціхім і яшчэ больш задуменным.

1912 г.





# НА ЖАЛЕЗНАЙ ДАРОЗЕ

## I

Івась нікому не зайздросціў—можа затым, што ён быў яшчэ зусім малы і мала знаў жыццё; толькі-ж цяперашняй свае долі не памяняў-бы ён на долю панскага сына, хоць сам Івась быў толькі сын будачніка.

Будка іх стаяла адна ў полі, пры саменькім лесе, праз які там смела і размашыста пралягла жалезная дарога. Невялічкі дворык іх быў агароджан прыгожым частаколам. Пад аконцам, што выходзіла ў бок жалезнай дарогі, раслі кветачкі і красаваўся пышны мак, а з невялікай градкі выкідала цыбуля, як пшаніцу, свае стромкія пер'і. У дварэ, каля самай будкі, замест стала, стаяў высокі гладкі дубовы пень з роўна абрэзаным верхам. У святы дзянёк, у харошую пагоду, сям'я будачніка піла тут чай. Высокі разложыс-

ты дуб распасціраў свае тоўстыя лапы над дворыкам будачніка, хаваючы яго зялёную травінку ад гарачага сонейка. Івась гадаваўся адзін. Апрача кур, пеўня і сабакі Жучка, у Івася не было таварышоў. Затое-ж хто, як не Івась, знаў хараство летняй раніцы ў полі? Каму, як не яму, былі вядомы ціхія шэпты старога лесу на захадзе сонца? Хто лепш яго разбіраў птушыную гаворку? І хіба мала здаваленне паслухаць, як крэхчуць жабы ў зялёным балотцы? Сам Івась прызнаваўся ў сваім сэрцы, што такога прыгожага кутка не знойдзеш нідзе на свеце... А жалезная дарога?

Не,—каб пачуць усю паўнату гэтага хараства, гэтых чараў дарогі, што ідзе каля іх, то трэба бачыць яе на свае вочы, трэба палюбавацца ёю ў ясны веснавы або летні дзянёчак. Роўная, як струнка, доўгая—вокам не скінуць—рассекла яна лес сваім смелым махам на дзве палавіны, і хто яе ведае, куды яна дзяецца, выскачыўшы з лесу. Івасю моцна хацелася выбрацца ў дарогу паглядзець, што знаходзіцца там, за лесам, над якім заўсёды вісела сіняватая смуга, толькі гэта ніяк яму не ўдавалася. Прызнацца, ён трохі баяўся далёка адыходзіцца ад дому.

Была яшчэ адна прычына любіць жалезную дарогу. Івась ніколі не прапускаў здарэння сустракаць пасажырскі поезд: колькі раз добрыя людзі выкідалі Івасю праз акно вагона то цукеркі, то пустыя бляшанкі, што ў высокай меры рада-

вала малога Івася і рабіла яго проста-такі шчаслівым.

Івась не меў яшчэ свайго дзела і жыў вольна, як тое паветра палёў, на якім ён гадаваўся. Часта бегаў ён на жалезную дарогу паглядзець, як яго бацька падмятае, чысціць палатно дарогі, як прабуе, ці крэпка сядзяць на шрубах гайкі. Усё гэта цікавіла Івася, і ён так углыбляўся ў бацькаву работу, што забываўся нават аб сваім носе.

— А навошта ты падкручваеш гэтыя шрубы?— пытаў Івась бацьку.

— А каб рэйкі мацней трымаліся,—адказваў бацька:—будуць скрэплены дрэнна—поезд можа сыйсці з рэек, зробіцца няшчасце, людзі пагінуць.

Івась зараз-жа думаў аб тым, які малюнак уяўляў-бы сабою поезд, сышоўшы з рэек. Скура яго шорхла, мурашкі бегалі па целе ад гэтых думак, і ён яшчэ пільней пагладаў за тым, ці ўсе гайкі перапробаваны, а калі бачыў, што бацька мінаў каторую, то зараз-жа звяртаў на гэта яго ўвагу.

— Іш ты, майстар дарожны,— гаварыў бацька і, каб зрабіць прыемнае сыну, прабаваў гайку.

— Каб не ты, то было-б крушэнне,—жартаваў бацька, а Івась думаў, што гэта праўда, і ад радасці не памятаў, на якім ён свеце.

## II

Новае жыццё, новыя думкі прынесла з сабою вайна. Івась ніяк не мог растлумачыць сабе, што за рэч такая—вайна; толькі потым, па меры

таго, як ён прыслухоўваўся да гутаркі старшых, у ім злажыўся страшны вобраз вайны. Вайна, у думках Івася, — нешта асобнае, незалежнае ад волі людской. Гэта была страшная кабеціна, што бадзяецца па свеце, і, дзе яна ступае, там робяцца пажары і разбурэнне страшнае. Вакол яе гінуць людзі і рэчкамі цячэ чалавечая кроў. Гэтую лютую бабу-вайну выпусцілі на свет немцы, за гэта нашы салдаты і ідуць на немцаў. Перш ім трэба зваяваць сваіх ворагаў, а тады ўжо злавіць страшную кабеціну і заперці яе ў такі глыбокі калодзеж, адкуль яна і не вылезе. Тады і настане на свеце спакой. Івась кожны дзень бачыў, як валілі адзін за другім паязды з салдатамі. Адкуль яны толькі браліся? Загарэлыя, здаравецкія,—здавалася, не ведалі яны ніколі ніякага гора і бяды: у кожным поездзе грымеў гармонік, вясёлыя дружныя гукі песень заглушалі шум вагонных калёс, крэпкія салдацкія ногі неахвотна стаялі на месцы—то тут, то там рыхтаваліся яны крутнуцца, разыйсціся ў шалёныя заліхвацкія скокі, і толькі няхватка прастору стрымоўвала іх парыванні. Усе гэтыя з'явы моцна захаплялі Івася. Поезд з салдатамі аддаляўся, меншыўся і ў канцы зусім прападаў з вачэй далёка ў тым лесе, куды бегла і сама жалезная дарога. А Івась стаяў, і думкі-вобразы ціха снаваліся над яго маленькаю галоўкай і калыхалі яго сэрца яшчэ невядомымі для Івася жаданнямі. Яму самому хацелася быць салдатам і ехаць у

гэтую прыгожую, чароўную, невядомую далечыню, якая так моцна парывала да сябе Івасёву душу. Бачыў Івась, як на доўгіх платформах везлі страшныя гарматы на велізарных калёсах... Пазіраючы на ўсё гэта, Івась не так баяўся вайны, і яна здавалася яму нават вясёлаю.

— І куды яны едуць і едуць?—пытаў Івась у бацькі.

— На вайну,—адказваў коратка бацька і ўздыхаў.

— А чаму іх так многа?

— Многа? і ворагаў многа, сынку.

— Ну, а што пачнуць там рабіць, як зыйдуцца ўсе?

— Ваяваць будуць.

— А як будуць ваяваць?

— Як ваяваць будуць?—перапытваў бацька і разгінаў спіну—ён чысціў і падмятаў палатно дарогі:—а вот: немцы і аўстрыякі будуць націскаць на нашых, нашыя на іх, пачнуць жарыць з гармат адны ў другіх, з вінтовак і кулямётаў і будуць усё сходзіцца, а як сыйдуцца—будуць калоцца штыхамі—во гэтак!

Тут бацька намерыўся памялом у Івася, нібы збіраючыся прабіць яго. Івасёў бацька маляваў з'яву бою па-свойму. Івась слухаў, раскрыўшы рот.

— А ім баліць?—спытаў Івась.

— Каму?

— Тым, што гэтак б'юцца.

— Усяляк, сынок, бывае: каго раняць, таму баліць, а насмерць заб'юць—нічога і не ўчуеш.

— А я-б не біўся.

— Як-то не біўся-б? Быў-бы салдатам, то мусіў-бы ваяваць, сынку.

І другія думкі пачыналі варушыцца ў галаве Івася. Цяпер яму робіцца крыху ясней, чаму сярод салдат пападаліся і такія, на чыіх тварах адбіваўся такі смутак і гора. Мусіць, ёсць з чаго засмуткаваць, занудзіцца чалавеку! І яшчэ: бачыў Івась, як з другога боку, з-за таго невядомага лесу, ішлі і другія паязды з вагонамі, на якіх былі вялікія чырвоныя крыжы. І ціха было ў гэтых паяздах, нерухома ляжалі там раненыя салдаты. А маці кожны раз, пазіраючы на гэтыя вагоны, цяжка-цяжка ўздыхала, прымаўляючы:

— О, божа, божа! колькі гіне і глуміцца народу!

## III

Ад часу да часу любіў малы Івась рабіць абходы сваіх улюбёных куточкаў, якіх было тут нямала. Бывала, раніцою выйдзе Івась з будкі на свой дворык, прыпрэцца дзе-небудзь у куточку на сонейку, сцішыцца, задумаецца, стаіць, разважае, прыслухоўваецца да тых радасных гукаў і шуму, якімі жыве гэты вольны белы свет, або проста цешыцца хараством летняга дзянька. І нейкае няяснае для самога Івася жаданне пацягне яго далей з двара, на той прастор, дзе прырода стварае таемнасць жыцця.

На ўскрайку поля стаяў тут лес, пачынаючыся чародкаю высокіх і роўных дубоў; крыху воддаль ад жалезнай дарогі яны злучаліся з таўшчэразнымі старасвецкімі хвоямі. Здавалася, што нейкі лясны цар сумысля павыбіраў іх з усяго лесу:—такія яны былі высокія, выносныя, стройныя, гладкія, а макушы іх—адна любата: адна ў адну, як пышныя шапкі. Далей, каля поля, цягнуўся купчасты прысадзісты хвойнік, сярод якога зрэдку разнімалі свае прыгожыя верхавіны старыя хвоі. У гэтым хвойніку было многа даўнейшых ям.

Вучоныя людзі, якія хадзілі сюды з горада пагуляць, пашпацыраваць (горад быў не так далёка), казалі, што гэтыя ямы—знакі глыбокай старажытнасці; гэта даўнейшыя акопы, як яшчэ Літва ваявала з Маскоўшчынай. Простыя людзі пра ямы гаварылі крыху не так. Сяляне сцвярджалі, што тут не так даўно, на памяці многіх з іх, быў бровар, і ў гэтых ямах закопвалі бульбу. Івася не так цікавіла гэтая спрэчка вучоных з невучонымі, як самі тыя ямы, на якіх глеба ўжо заскарынілася, і там расла траўка, купкі прыгожага сіўцу і розныя краскі, дзе так многа было ўсякіх конікаў і жучкоў. А самае важнае—каля ям пад купчастымі хвойкамі расло многа добрых грыбоў, пра якія ведаў адзін толькі Івась. І часта малы Івась, узяўшы з сабою кошык і лустачку хлеба, прыбягаў сюды пагуляць, паглядзець на вежы цэркваў і касцёлаў—яны былі адгэтуль

добра відаць—на стары манастыр, самы высокі ва ўсім горадзе, на трубы фабрык і заводаў. Сюды падыходзілі роўненькія загоны жыта і збажынкі, тут-жа было многа спеву птушынага, шуму і звону ўсякіх мушак і блішчастых жучкоў. І Івась так углыбляўся ва ўсе гэтыя малюнкі і з'явы, так зліваўся з жыццём поля, лесу і ўсяго гэтага белага свету, што напэўна быў бліжэй к пазнанню таемнасці яго жыцця, чым які-небудзь вучоны.

---

Каля ям быў высокі пагорак, з якога было далёка відаць. Івась часта ўзбягаў сюды, каб паглядзець, што творыцца вакол.

Было гэта пад восень.

Івась стаяў на пагорку. Ён прыслухоўваўся, к цішы, як-бы яна павінна была штось адкрыць яму. Яго чуткае вуха ўлаўляла далёкі-далёкі гул, бы гром. Але неба было яснюткае, дзе-ні-дзе злёганька засцілалася яно тонкімі пасцілачкамі светлых хмарак. А ў полі і ў лесе было ціха, толькі ўгары жаласна пасвістваў каршун. Сярод гэтай агульнай цішы свіст яго быў надта смутны. А гром усё гучаў, але раскаты яго былі так глухі і далёкі, што толькі чуткае вуха магло расслухаць яго. Івась не ведаў, які гэта гром, але яму было страшна, і нейкая няясная трывога калыхала яго душу.

Але што гэта? Які гэта гул? Скуль ён? Нічога падобнага не чуў Івась. Гул быў густы, магутны

і блізкі, але трудна было распазнаць, адкуль ён ішоў. Івась углядаўся па баках, а гул не пераставаў і назойліва лез у вушы. Ускінуўшы вочкі ўгору, убачыў Івась, як высока над галавою неслася невядомая птушка. Але дзе ёсць такія птушкі? Не, гэта, напэўна, змей. Івася агарнуў страх. Змей зрабіў у паветры круг, крыху спусціўся наніз. — Віз-з-зь!—загуло ўгары, і зараз-жа ў бок жалезнай дарогі пачуўся страшэнны стрэл, бы пярун ляснуў. Зямля здрыганулася, па лесе паняслося, тарарахкаючы, рэха, як-бы гэты змей рагатаў сваім страшным рогатам.

Івась бедны так перапалохаўся, што прытуліўся да хвойкі і ўвесь тросся і калаціўся.

Зноў запішчала штось у паветры. Івась мімавольна закрыў ручкамі твар і чакаў. Другі гук быў яшчэ грамчэйшы, яшчэ зласней затарарахкаў лес, і чорны густы дым паваліў ад будкі.

З плачам кінуўся Івась дадому. Будка была ўжо ўся ахвачана полымем, агністыя языкі лізалі яе дах, шугалі праз вокны і, як вужакі, віліся па сценах.

А дзе-ж ён сам, гэты стораж? Чаму не відаць мацеры? Дзе яны? Чаму не ратуюць свайго набытку?

— Мама, мамачка! Тата!—загаласіў Івась, заламаўшы ручкі. Але ні маці, ні бацька не вышлі на яго жалобныя прычытанні.

— А мамачка! а татачка!—галасіў няшчасны хлопчык; з вялікага гора ўпаў ён на зямлю, біў-

ся аб яе і грыз сыры пясок. І ніхто не адазваўся на яго гора, адзін толькі разложысты дуб з асмаленым камлём і лісцем пазіраў так горка і пакутна, як-бы яму было блізка не толькі сваё няшчасце, але і няшчасце гэтага беднага сіроткі.

1915 г.





# АГАТКА

## I

Дзіўная дзяўчынка маленькая Агатка. Ёй шэсць гадоў, а выглядзіць гадкоў на чатыры. І гаварыць яна добра не ўмее. Гаворыць па-свойму, а разабраць яе трудна. І гаворка яе больш выказваецца ў нейкіх гуках, чым у словах. Глядзіць на яе дзед Павал і галавою часамі заматае. Напэўна думае—няшчаснае дзіця яго ўнучка: нестае ёй чагось у галаве. Малая будзе з яе дапамога ў гаспадарцы. І жаласць абудзіцца да яе ў дзедавым сэрцы. Расце дзіця без роднай маткі. Няма таго догляду, тае ласкі, увагі, што ідзе ад матчынага сэрца. І Агатка напэўна адчувае гэта сваім дзіцячым сэрцам, бо нейкі смутак прабяжыць іншы раз па яе замурзанаму тварыку.

Percentage

Сядзе на лаву каля акна. Слаўна там, на дварэ. Неба такое яснае, светлае. Па саломеных стрэхах разліваюцца ўсмешкі сонца, а верабейчыкі, як дзеці, дурэюць, чырыкаюць, а часам і ў чубкі возьмуцца. Пацеха з імі! Агатцы хочацца туды, страх як хочацца! Там яе жыццё, яе радасць, там прастор і воля. Баязліва паглядае Агатка на мачыху, украдкам кіне свае вочкі за акно. Рана яшчэ. Расы ўсюды многа. Па вуліцы каровы затухкалі, забляялі авечкі, ляснуў пугаю пастух. Агатка прыліпае да акна. Эх, як там цікава! Не хочацца ў хаце сядзець. Бо што-ж тут, у хаце? Душна, цесна, мух многа. І надакучыла дзедаву песню слухаць, бо дзед Павал увесь дзень стаіць каля калыскі і ўсё мармоча:

— Угу-угу! угу-угу!

Крычаць на Агатку дома, бо яна валакітка вялікая. Як пойдзе з хаты зранку, так і прападзе на цэлы дзень. Не падабаецца гэта мачысе: трэба-б і да работы прывыкаць. Да і людзі могуць думаць, што Агаткі затым ніколі дома няма, што ў яе нядобрая мачыха. І бацьку часамі пажаліцца. А бацька сярдзіты. Рука яго цяжкая, і слова яго жорсткае. Вось толькі дзед пагаворыць з ёю. Лагодненька ўмее гаварыць дзед Павал:

— Не хадзі ты, Агатка, далёка: бацька сварыцца будзе. Забылася, як бацька на цябе крычаў? Ты каля хаты гуляй, на прыгумень ідзі.

Агатка на дзеда зірне, засмяецца. Нічога дзед не ведае. А дзед ёй кажа:

— Няможна адной па полі хадзіць. Воўк з кустоў выскачыць. Ты не бачыла воўка—страшна, страшна, ого!

Агатка смехам заліваецца. Яна не баіцца воўка. Што ёй воўк зробіць?! А то проста перастае дзеда слухаць і аб чымся другім думае. А аб чым, дык і згадаць трудна. На дзеда Агатка глядзіць, а з дзеда на хлеб вочы пераводзіць і кажа:

— Дай.

Дзед да стала кульгае, унучцы кусок хлеба адрэжа.

Агатка бярэ хлеб, чуць не выхватвае з рук дзеда і стралою на двор вылятае. А дзед Павал галавою патрасае і яшчэ больш сур'ёзным стане.

## II

Не ўтрымаць Агаткі дома. І дзе толькі ні апыніцца яна за дзень! На мінутку на двары прыпыніцца, каб разглядзецца трохі, у які бок ёй кінуцца. Зачынены весніцы на вуліцу. Адчыняць ёй цяжка. Яна спрытна пералазіць весніцы. Вось і вуліца.

У адзін і ў другі канец вуліцы глядзіць Агатка. Не, няма дзе разгарнуцца тут. Цесна. Па вуліцы дзеці бегаюць. Лужыны стаяць па ёй: учора дождж уліўны прайшоў. Парыцца на сонцы вуліца, шумяць звонкія галасы дзяцей. Не. Агатка з імі не кампануе. Ёй адной весялей.

Упоперак вуліцы перабягае, цераз суседскі двор на поле бяжыць Агатка. У полі так прасторна! Бяжыць яна туды, дзе шнурамі нівы пралеглі.

Спыняецца Агатка: такая прыгожая красачка расце па ўзмежку. Агатка радасным смехам смяецца і нейкія словы гаворыць. З красачкаю размаўляе. Зрывае, нюхае і далей бяжыць.

У полі так добра! Прастору многа. Жаўранкі спяваюць. Белыя хмаркі праходзяць, а сквозь іх такая слаўная просінь відна. Зусім не відаць Агаткі: вусаты ячмень з аднаго боку, з другога— мятлісты авёс. Гнецца поле каласамі. А красачак колькі тут! Агатка забывае ўсё. Ну так тут добра, што аж прысядзе дзяўчынка, на прыполіку красачкі перабірае, гаворыць з імі, смяецца ім. Потым яшчэ далей падаецца Агатка. Вось і мяжа скончылася. На дарогу выйшла. Людзі кудысь едуць, Агатка праводзіць вачамі кожную фурманку.

А вунь там, як мурашачка, выпаўзе з-пад лесу яшчэ адна і яшчэ. Куды яны едуць? А побач з дарогаю чыгунка бяжыць. А там, далёка-далёка, дымок белаваты паказаўся. Глядзіць туды Агатка—гэта-ж поезд ідзе! Крыкнула Агатка. Кулём на другі бок чыгункі кідаецца, бяжыць туды, дзе спыняецца поезд, выбірае сабе мясцінку, каб усё відаць ёй было.

А тут і незнаёмыя людзі сталі збірацца, не тутэйшыя. Гэта—дачнікі. Але яны не займаюць увагі Агаткі. Яна глядзіць на поезд. Клубок белага дыму ўбок заламаў, дзесь знік за кустамі. Агатка глядзіць, ці пакажацца ёй зноў, ці не. Няўжо так і не пакажацца? Агатка не зводзіць вачэй з тых кустоў, і радасны крык вырываецца ў Агат-

кі: выскачыў поезд разам з цэлым хвастом кучаравага дыму.

Прыпыняецца поезд, бег свой змяншае, падыходзіць смелы, магутны, тупоча сотняю жалезных ног. А з акон вагонаў цэлыя букеты людскіх галоў пазіраюць. Спыніўся. Як пчолы з вулля, высыпаюць з вагонаў людзі. Шум, гоман, смех дзяцей. Агатка пазірае, адкуль-жа гэта так многа дзяцей? Ды ўсё з нейкімі чырвонымі стужкамі на шыях. У рады пастроіліся. Музыкі ім граюць на трубах.

Не ведае Агатка, навошта глядзець ёй: ці на гэтыя трубы бліскучыя, ці на дзяцей, ці на іх чырвоныя павязкі?! Гукнуў поезд, нехта ў свісток засвістаў. Здрыгануліся вагоны, паімчаўся поезд далей.

Разыходзяцца людзі то кучкамі, то па аднаму, і толькі стройная калона дзяцей з чырвонымі павязкамі кудысь у лес пайшла. Агатка ідзе за імі, глядзіць, хто яны такія? Чаго прыехалі сюды? Ах, якія прыгожыя стужкі ў іх! Агатка яшчэ трохі праходзіць за імі, потым спыняецца, стаіць, залажыўшы ручкі за спіну. Напэўна, весела дзецям, а яна адна. Каб у яе была такая чырвоная стужка, то можа і яна-б пайшла-б з імі. Але як толькі адвяла ад іх Агатка вочы, то і думкі аб чырвонай стужцы спыняюцца. Аб чымся другім думае Агатка і павольна ўжо ў той цёмны яловы лес ідзе. Чаго яна ідзе туды? Да проста ёй хочацца кудысь яшчэ падацца, і ідзе

яна проста так сабе, абы на адным месцы не быць. Чуе Агатка—грукоча дзесь нешта, тарахціць, аж паветра ломіцца. Кідае погляд дзяўчынка, разглядаецца. Гэта той страшны жук гудзе, самаход. Вось ён, як віхор, імчыцца. Пыль курыць. Агатка адбягаецца ўбок, на горку ўскочыла, за хвойку прытулілася. Праляцеў самаход. Агатка кулачком патрэсла на яго. А ён спалохаўся: борзда-борзда ад Агаткі ўцякае.

Агатка навокал азіраецца—хоць-бы пабачыў хто, як гэта бліскучы жук ад яе ўцякае.

## III

Далёка ад дому адышла Агатка. Вакол яе поле ды гэты цёмны яловы лес. І пуста, нялюдна тут. Глуха. Але Агатка не баіцца. Каго ёй баяцца? Ёй нават добра тут, бо зусім нікога няма. Але Агатка раптам спыняецца, ці не бацька яе унь там, каля лесу, ходзіць?

І конь пры лесе ў арэшніку стаіць... Не, гэта хтось невядомы, чужы. Адлягло трошкі ад сэрца Агаткі. Пасмялела. Аж бачыць—недалёка ад яе другі чалавек. І твар яго неспакойны. Трывога на ім. Усё гэта неяк адразу кінулася ў вочы Агатцы. І нядобрым вокам Агатку акінуў гэты пануры чалавек. Што рабіць ёй? Страх нейкі адчувае цяпер Агатка. І чаго яны тут? Чаго яны прышлі замінаць ёй? Хто іх прасіў, хто клікаў? А страшны чалавек другому, што каля лесу быў, рукою махнуў. Сышліся. Гавораць. На Агатку паглядаюць.

А людзі тыя намову вядуць.

— Ліха-ж яе ведае,—кажа адзін.

— І адкуль яе чэрці нанеслі!—злосна гаворыць другі.

Яны хавалі тут кантрабанду. Колькі часу патрацілі, колькі страху набраліся! З-пад самай граніцы везлі. Зарабіць можна чорт ведае колькі. Цяпер небяспечна: малое то малое, а шкоды нарабіць можа.

Дзіка заварушыліся вочы ў таго, што ад фурманкі падышоў. Азірнуўся навокала.

— Прыдушыць!—шыпіць чалавек.

— Глядзі, каб ліха не нажыць... Ах ты, паршыўка праклятая! Каб такая паскуда ды столькі клопату нарабіла... Хіба перахаваць?

— Куды перахоўваць? Па слядах пагранічнікі ціснуць... Ідзі да каня!

Абмерла Агатка: незнаёмы чалавек да яе зверам ідзе.

Дзіка закрычала Агатка, бегчы кінулася. Дзесятак шырокіх крокаў,—і крэпкая рука за сукенку на спіне схваціла.

Момант—бурканула Агатка ў паветры і аб зямлю моцна стукнулася.

Нічога больш не памятае Агатка.

Толькі пад вечар расчыніла яна вочкі. Тое-ж самае поле, той самы лес, але страшных людзей тут не было. А тут хлопцы з дому адпачынку гулялі і на той час, калі над Агаткаю была занесена рука смерці, яны праходзілі тут, нічога не

ведаючы. Праходзілі—і спалохалі кантрабандыста.

І ўсё яно неяк дзіка і недарэчна сплялося, і ніхто не ведаў трагедыі дзіцячай душы.

У пасцелі некалькі дзён паляжала Агатка. Падсядаў да яе дзед Павал, гладзіў шурпатаю добраю рукою па яе галоўцы і словы добрыя казаў ёй:

— Закіданае ты дзіця. Мацеры ў цябе няма. І галоўка твая дурная... Ды што ты зробіш? Ачуньвай, гадуйся. Жыві!

1926 г.





# ВАСІЛЬ ЧУРЫЛА

## I

Лес шумеў неяк вельмі нудна.

Лес рэдка калі маўчыць.

Прывычнае вуха лавіла ў ім галасы, але ніхто яшчэ не ўнікнуў у тайну яго мовы; толькі сэрца смутна адгадвае ў ім нуду і трывогу.

Касматыя яловыя вяршыны трасліся, як у шалёным танцы. Лапы то падымаліся, то апускаліся, як-бы лавілі нявіднага ворага, які не даваў спакою і прымушаў трасціся лес.

Лес шумеў. Смутна шумеў стары лес.

З краю лесу стаяла хатка лесніка, Васіля Чурылы. Маленькае аконца хаткі смутным значком пазірала ў поле. Здалёк яно здавалася воўчым вокам. Над самым аконцам звісла голая вярбіна і глуха шумела, усёроўна як стагнала.

Маленькая лямпачка цмяна свяціла ў хатцы. Агонь баязліва дрыжаў, і чуць заметна скакаў і пераліваўся мрок па сцяне. Каля стала сядзела жонка Васіля, Алеся. Ёй нічога не хацелася рабіць, дый работа падала з яе рук.

Дзеці даўно ўжо спалі.

— Дзе-ж гэта Васіль?—з уздохам пытала Алеся.

Васіль не першы раз прыходзіў дадому ў такі позні час. Знала Алеся сабаччу леснікову службу, знала пана ляснічага, што то быў за чалавек. Але чаму-ж так нудна і страшна за Васіля сягоння? Алеся і сама гэтага не знала, толькі нейкая глухая трывога залезла ў душу і, як чарвяк, грызла сэрца.

Доўга чакала Алеся Васіля. Перадумала ўсе няшчасці і здарэнні, якія маглі прылучыцца з Васілём у гэту неспакойную ноч.

А лес усё шумеў. Нудна шумеў стары лес...

## II

Дзе-ж дзеўся Васіль?

Ужо пачынала змяркацца, як паслаў яго ляснічы з лістам да суседняга двара.

Была ўжо глыбокая ноч, покі зайшоў Васіль у двор да пана. Пан затрымаў Васіля на некалькі часу, покі пісаў адказ ляснічаму. Ніхто не спытаў Васіля, ці ён еў; ніхто не накарміў галоднага. І вышаў Васіль ад пана з горкай крыўдай у сэрцы...

Беднасць прымусіла Васіля кінуць бацькаву хату і ісці ў леснікі. Нямала прышлося яму паабіваць панскія парогі, не раз мусіў ён стаяць прад панам ляснічым, цалаваць яму рукі, гнуцца.

А ўсё гэта любіць пан. Тое лясніцтва—глухі вугалок Беларусі,—у якім служыў Васіль, захавала ў сабе яшчэ старыя парадкі таго цёмнага часу, калі было права памяняць чалавека на сабаку, таго часу, які зваўся «паншчынай». Жыццё ішло далей сваёю дарогаю, ішло, шырылася, а гэты кут аставаўся глухім, акамянелым, і свет новага жыцця адскакваў ад яго, як адскаквае прамень сонца ад ледзяной гладзі.

Ішоў Васіль адзінокі, невясёлы.

Снег хутка замятаў дарогу, вецер збіваў Васіля з ног, а горкія думкі, як пчолы, кружыліся над яго галавою. Усё яго жыццё, усе думкі былі ў тым, каб скарэй збавіцца ад сабачай службы. Дастаць-бы кусок зямлі, пабудаваць сваю хату і жыць, нікога не баяцца, нікому не гнуцца.

А тут што?

І ўсё леснікова жыццё яго ўстала прад ім, як жывое; усёроўна як пазіраў ён на яго, як на адзін цэлы закончаны абраз уніжэння і крыўды.

## III

А вецер усё крапчэў. Васіль адвярнуў каўнер кажушка, глыбей насунуў на вушы круглую шапку, апусціў стрэльбу руляй уніз, каб не надзьмула снегу. Лес скончыўся. Васіль вышаў на адкры-

тае месца. Ён усё думаў аб сваім жыцці, аб лесніковай службе.

Яшчэ-б сказаць, можна было-б служыць, каб трымаўся толькі службы. Але ўся бяда ў тым, што ляснічы папіхаў лесніка да ўсяго, як дармнага каня. Пры адной толькі думцы бачыцца з ляснічым мароз прабягаў па скуры Васіля. Васіль не раз гаварыў, што лепей хацеў-бы ён сустрэцца з гадам або воўкам, як папасціся на вочы ляснічаму. Не раз стаяў Васіль, як палатно белы ад крыўды і несправядлівасці, выслухваючы спавяданні пана ляснічага. Рукі самі згортваліся ў кулакі, і не раз нейкая сіла падбівала Васіля кінуцца на ляснічага, разбіць твар, кінуць аб зямлю, таптаць нагамі, біць, біць без жалю, без міласэрдзя. Тады-б, здаецца, спагнаў сваю злосць, адпомсціў бы за ўсе здзекі і ўніжэнні. Але ўспамінаў Васіль, што ў яго ёсць жонка, ёсць маленькія дзеткі, і рукі самі апускаліся, і стаяў ён акамянелы, маўчаў—ні слова. Што-ж, кінуцца на пана? А што далей? Далей—астрог, жабрацкая торба. Далей гэтых граніц не ходзіць забітая, прыніжаная душа простага чалавека.

Лаяўся пан ляснічы, як праўдзівы майстар свайго дзела. Лаянка яго лілася доўга, плаўна, без запінкі. Кожнае слова было ўзважана і біла па сэрцы цяжкім абухом. Адным словам, думаў Васіль, абмылкаю нейкаю прышоў на свет гэты чалавек і замiж астрога або вар'яцкага дома папаў у ляснічыя. А ўрэшце, чорт яго разбярэ, хто

жыве тут не па абмылцы. На гэтым пункце спатыкаліся мыслі Васіля і не маглі здалець яго, бо далей перад вачыма яго адкрывалася многа незразумелых парадкаў, за якія можна папасці ў турму або чорту на скавараду.

## IV

У тахт думак Васіля спяваў вецер у полі нікому непатрэбныя песні. Васіль так углыбіўся ў свае думкі, што забыўся, дзе ён, куды ідзе.

Васіль спыніўся, каб разгледзець, дзе ён. Ногі яго па калені ўлазілі ў снег. Але што разгледзіш у такую ноч? Неба змяшалася з зямлёю... Шырокі прастор поля звузіўся ў чорную бочку, і нічога не магло разгледзець вока адзінокага Васіля. Усёроўна як нехта выкінуў яго, непатрэбнага, беднага, у гэтую зяўру страшнай ночы, прынёсшы ў афяру сярдзітай буры, каб яго жыццём купіць сабе спакой.

— Дзе-ж я?—трывожна спытаў сябе Васіль.

І адразу ахваціў яго страх, самы большы страх чалавечы—страх за сваё жыццё. Рукі яго апусціліся, яму захацелася прысесці. Але не сеў Васіль і стаў перабіраць нагамі ў глыбокім снягу, як спутаны.

А думкі, бесталковыя, дзікія думкі, заварушыліся ў ім скора-скора, як снег, што з усіх старон так бязжаласна сыпаўся на Васіля. То думалася Васілю, што ён сам шукае сваёй магілы, то здаваліся перад ім сцены, каменні, гатовыя кожны мо-

мант наваліцца на яго ўсім цяжарам. Яму здалося, што ён адышоўся далёка-далёка... Ужо раз спатыкнуўся Васіль, вецер збіў яго з ног. Ён выбіўся, як яму паказалася, на луг. У яго думках пранесліся азярыны ў высокіх берагах, замеценыя снегам, але ніколі не замярзаючыя. Снег усё глыбейшы і глыбейшы, а сілы ўсё таюць і таюць. От ён зусім выбіўся з сіл, залез у снег па пояс і не можа ўжо мясіць яго адзервянелымі нагамі.

## V

— А-а-а-у!

Васіль і не думаў крычаць, як не думаў ён і плакаць. Дзікі крык вырваўся сам проці волі Васіля, і самі пацяклі слёзы.

Вецер падхапіў яго немы крык, рвануўся з ім і тут-жа загубіў яго, расцёр, як мыльную бурбалку.

— Хто я? Васіль?

— Васіль, хто-ж я?

— Што-ж ты робіш?

— Сяджу ў снягу.

— Ну, Васіль, гайда дадому!

Усё ў ім мяшалася, і сама сабою навязалася яму гэтая бесталковая гутарка...

У вачах яго як-бы прасвятлела. Усюды, куды ён ні гляне, віднеліся морды ляснічага, яго вышчараныя зубы. Гэтых морд набралася многа-многа; яны абнімаліся, скакалі, варушыліся, як па камандзе, дрыжэлі, як лісце асіны перад навальніцаю.

А вунь там відаць худы, змучаны, заплаканы твар Алесі... Вунь яго дзеці...

А ляснічыя скачуць, насміхаюцца з Васіля, падаюць яму рукі і борздзенька прымаюць, як толькі Васіль памыкаўся ўзяцца за іх.

Рвануўся Васіль са злосці на ляснічых!

І пачуў Васіль лёгкасць, як-бы ён павіс над зямлёю. Ён ціха апусціўся, стаў лёгка, свабодна ўлазіць у нешта мяккае і халоднае. От як-бы затрымаўся... Чуў ён яшчэ, як лопнуў рамень на яго стрэльбе, як улазіў уніз... болей нічога не чуў Васіль.

Вецер спяваў яму цяпер «вечны пакой».

~~1908 г.~~ 1907





# МАЛАДЫ ДУБОК

## I

— Ну і людзі!—гаварыў сам сабе Максім Заруба:—ну, украў, ну, ссек, хай цябе ліха сячэ; ды не рабі-ж ты на здзек чалавеку, не рабі так, каб кожнаму кідалася ў вочы тваё злачынства, гіцлю!

Максім старанна аглядаў сляды нядаўняй кражы ў яго абходзе. Высокі, у палавіну чалавека, дубовы пень ясна выдзяляўся сярод дзеравяк і свяціў сваім светлажоўтым верхам і свежымі трэскамі вокал, а шырокая разложная верхавіна і адсечаныя сукі пазіралі так невясёла, так смутна, бы тыя пакінутыя бацькам дзеці. Зірнуўшы ўгару, Максім угледзеў маладую бярэзіну з абламанымі галінкамі. Гэта дуб, звалены бязжаласным тапаром, кідаючыся, чапіў яе сваімі крэпкімі сукамі.

У лесе было ціха і маркотна, толькі ўгары стаяў глухі шум старых хвой і ялін. Высокія асіны і бярозы прылучалі зрэдка і свой голас да гэтага шуму, калі часам дужэй патыхаў сыры, халодны вецер і варушыў іх голае веццe. На гэтым месцы, дзе рос дуб, мала пазначылася прастору, і маладыя высокія ёлкі ўжо разгарнулі свае кашлатыя зялёныя лапы і занялі месца дуба. Так і за сталом жыцця, дзе сядзіць цесная людская сям'я, не пустуе месца выхвачанага смерцю селяніна.

Максім трывожна азірнуўся вокал, зняў з-за плеч сваю старасвецкую стрэльбу і паставіў каля хвоі; дастаў з-за пояса сякеру і пачаў замятаць сляды неўпільнованага злодзея. Ён ацерабіў верхавіну, пасцягаў сукі ў гушчар, ссек пень каля самай зямлі, завалок яго далей ад дарогі, пад вываратак, а тое месца, дзе быў пень, закрыў зялёным мохам. Максім сам у гэты момант быў крыху злодзеем. Але яму больш нічога не заставалася рабіць, як прыкрыць след гэтай кражы, каб самому не нагарэла ад ляснічага.

Кончыўшы работу, Максім адышоўся крыху і азірнуў сваю працу, ці няма яшчэ якога знаку, па якім можна было-б замеціць, што тут украдзен дуб. Усё было прыбрана гладка, але Максіму здавалася, што варта толькі зірнуць аб'езчыку, каб прымеціць, што нехватае аднаго дуба. А можа аб'езчык раней яго агледзеў гэты недагляд, і ўжо вядома ў лясніцтве аб гэтай пакражы.

— «І выбера-ж часіну, паганец!—зноў разважаў з сабой Максім.—Ну, каб папаў! Гужы, лейцы—усё пасек-бы».

Максім ніяк не мог супакоіцца. Ён вышаў на дарогу, куды вёў след ад калёс. Але далей трудна было разабраць, куды ён пайшоў: ці мала едуць па дарозе ва ўсе канцы? Максім пастаяў, патупаў, як-бы разбіраючы важную справу. На душы яго было цэлае пекла. Злосць на таго, хто ссек дуб, хто, як сумысля, як на здзек яму, зрабіў гэту кражу, ніколечкі не клапоцячыся схаваць канцы; далей—страх перад ляснічым, страх за страту куска хлеба: даўно ўжо капаецца пад яго аб'езчык, не раз пагражаў Максіму і ляснічы прагнаць яго з месца.

Усе гэтыя думкі і пачуцці і рабілі тое пекла, што было на душы Максіма.

— І хто-ж бы мог зрабіць гэта?

Максім пералічыў колькі гаспадароў з вёскі, што былі ў яго ў вялікім падазрэнні. Але, не злавіўшы, не кажы, што злодзей.

Максім яшчэ раз прышоў на тое месца, дзе рос яшчэ ўчора прапаўшы дубок. Як дарагі нябожчык, стаяў ён у вачах беднага лесніка. Прыкрыўшы камель яловымі лапкамі, Максім памалу пасунуў лесам.

Увесь гэты дзень, цэлы вечар і ноч не меў Максім супакою. Нават есці не хацелася яму. Нейкі страх і трывога душылі яго. Кінуцца за весніцы на дарогу сабакі, забрэшуць на каго

ці так што здасца іх сабачаму розуму,—Максім чуў, як у сярэдзіне ў яго нешта траслося, і яму здавалася, што гэта пэўна ідзе Марцін з каморы ад ляснічага з наказам з'явіцца ў кватэру. Але сабакі, пабрахаўшы, змаўкалі, і патрывожаная ноч яшчэ цяжэй насядала на халодную сырую зямлю, і яшчэ маркотней шумеў над рэчкай аголены лес.

Старая вярба, стоячы над самай хатай, шумела і хістала галінамі па страсе і, як на зло Максіму, гаманіла пра пакражу.

Стукне вецер у акяніцу, Максім уздрыгваў: яму думалася, што гэта ляснік ці аб'езчык.

## II

Андрэй Плех даўно ўжо меў сабе на прымеце дубок у лесе. Яшчэ летам, соваючыся з каробкаю па грыбах, насунуўся ён на гэты дуб. Як чалавек, якога агарнулі грэшныя мыслі, Андрэй наперад азірнуўся і пачаў аглядаць важнецкае дрэва. Высокае, роўнае, выноснае, як точанае, яно, здавалася, сумысля тут вырасла на спакусу чалавека. «А, пся кроў яго, што за дуб!—думаў Андрэй:—от былі-б восі! А якія хвацкія вышлі-б паліцы на сохі». (Андрэй быў майстар па часці сох.) Ды не так-то лёгка ўхопіш яго тут: ссячы, пападзіся,—такі табе штраф закоціць земскі, што і кароўкаю не адапхнешся. І Андрэй, яшчэ раз акінуўшы вокам дубок, уздыхнуў і паплёўся дамоў. На ўсякі выпадак ён замеціў гэта месца.

Скора пачалося жніво, і Андрэй забыўся аб дуб-
ку, але, як на грэх, у яго колах разышліся спіцы.
Трэба было думаць, як справіць новыя колы. На
калодкі і вобады Андрэй меў пра запас бярэзіну,
добрую баравую, чачоткавую бярэзіну з казён-
нага лесу. Гэта Мікола Сіняўскі ўдружыў яму.
А дзе-б узяць дубінкі на спіцы? І адразу ў яго
вачах устаў малады дубок, што бачыў у лесе,
збіраючы грыбы.

Бадай не кожны дзень думкі Андрэя вярцеліся
каля гэтага дубка. Кепска толькі, каб яго качкі,
калі пападзешся з ім. Праўда, у лесе красці не
грэх. Гэта не тое, што залезці да чалавека ў ха-
ту. І хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспа-
дар. Лес—божы: бог яго росціць і бог гадуе. А
князя чорт не возьме, калі ён, Андрэй, ссячэ
адзін дубок. Так разважаў вечарамі Андрэй, пых-
каючы люльку.

Раз пад вечар—гэта было ў нядзелю—Андрэй
ішоў з места. І так неяк зрабілася, што ногі Ан-
дрэевы самі пайшлі па той дарозе, каля якой ста-
яў гэты шальмоўскі дубок. Андрэй не мог стрымац-
ца, каб не даведацца свайго даўнейшага знаёмага.
Лес быў ужо зусім без лісця, і малады дубок
выглядаў цяпер яшчэ раўнейшым, яшчэ прыга-
жэйшым.

— Ах, злодзей!—гаварыў, цешачыся, Андрэй
і аглядаў дубок.

Ідучы дамоў, Андрэй вылічыў, калі сходней
яго ссячы. Квадра месяца пры гэтым стаяла ў

Андрэя на першым плане. Праз колькі дзён будзе маладзік. Вось тады ён і зызне яго.

Якраз перад «усімі святамі», натачыўшы сякерку, Андрэй ціха казаў свайму сыну:

— Запражэш каня і пад'едзеш пад Доўгі Лужок. Я буду там чакаць цябе. Ды глядзі, калі хто спытае, куды едзеш, скажы—па каноплі.

Андрэй выбраў такія сцежкі, дзе-б яго ніхто не спаткаў: асцярога не пашкодзіць, і ішоў, прыгнуўшы галаву. Аднак, чым бліжэй падыходзіў ён да лесу, тым больш чуў ён страх. А мрок—густы, халодны, непрыветны—нерухома аблягаў зямлю. Ціха. Глуха. Хоць-бы гук чалавечага голасу. І нейкая жуда ахапіла Андрэя. Пачуванне маркоты і адзіноты агарнула яго. Андрэй азірнуўся назад, на сяло. Скрозь цемрадзь прыветна свяціліся вокны сялянскіх хат чырвонымі і бледнаватымі плямкамі. Там сядзелі людзі, і на душы ў іх была згода. Толькі ён, як злодзей, крадзецца адзін скрозь гэты мрок, прыхільнага хаўрусніка кожнага злодзея.

Андрэй пачынаў каяцца, што выбраўся на гэту справу. Лепш-бы паставіць кварту за кусок дубіны—і сам выпіў-бы чарку і быў-бы смелы і спакойны. І яму хацелася, каб хто перашкодзіў яму цяпер, каб мець законнае права вярнуцца дамоў. Так было на душы Андрэя; а ногі яго ўсё неслі і неслі ў гэты страшны, пануры лес, дзе цяпер так цёмна і жудасна. Яшчэ гусцейшы і цяжэйшы мрок агарнуў Андрэя, як ён уступіў

у лес. Падышоўшы з поўвярсты, Андрэй спыніўся. Во тая хвоя з вехаю, ад якой трэба ступіць колькі крокаў направа. Патупаўшы, Андрэй сяк-так намацаў гэты дубок, каторага старажыў не толькі Максім, а яшчэ пільнавалі і другія стражы, што былі ў самым Андрэі—страхі. Андрэй прыслухаўся. Лес маўчаў. Можа ён зацікавіўся, што будзе рабіць тут гэты чалавек, чаго ён прышоў сюды варушыць і трывожыць яго цяжкі, блізкі да смерці сон. І было штось страшнае ў гэтым нямым спакоі лесу, і гэты страх перадаваўся Андрэю: ён стаяў ціха, баяўся кашлянуць і павольна адводзіў яловыя лапкі. Калі-ні-калі жалобна шорхаў сухі, завяўшы ліст, адрываючыся з дзерава і кідаючыся на сыры дол

— Ну, што будзе, то будзе.

Андрэй узяў сякеру. Сякера высока паднялася ўгару. Пачуўся першы стук. Вострая сталь глыбока ўрэзалася ў маладое дрэва, і гэты першы гук быў падобны да цяжкага, адрывістага кашлю, які вырываўся з глыбіні надарваных грудзей сухотніка. Андрэй, сакануўшы раз, адскочыў убок і на момант замёр, прыслухоўваючыся. Але вакол было таксама глуха і ціха.

Зноў узляцела сякера і пайшла латашыць усё часцей і зласней. Скора адна палавіна дубка была падсечана. Андрэй зайшоў з другога боку. З кожным узмахам сякеры дуб слабеў і хістаўся, дрыжэў голымі сукамі і ўсім сваім целам. Во ён чуць пахіліўся, абамлеў і, здавалася, аглядаў

месца, дзе-б упасці. Андрэй упёрся рукой і таўхануў яго. Голыя сукі крануліся сукоў суседніх дзеравяк, як-бы развітваючыся з жыццём, зачапіліся на момант і, аслабеўшы, асунуліся, і маладое дзерава цяжка ўпала, застагнаўшы, на зямлю.

Андрэй адышоўся і стаў слухаць. Адмерыўшы чатыры тапарышчы па камлі, Андрэй з нейкаю злосцю стаў адсякаць кавалкі дуба. Адсекшы кавалкаў шэсць, ён пазнасіў іх на дарогу. Здалёку пачуўся глухі стук колаў аб карэнне. Андрэй пайшоў на спатканне сыну.

## III

Яшчэ ніколі не зазнаваў Андрэй такога клопату, як цяпер. Недарма гавораць людзі: «Хто ўкраў парасё, таму і ў вушах пішчыць». Прывёзшы дахаты шэсць кавалкаў дуба, Андрэй да часу паскідаў іх на старану, дзе ляжалі яшчэ немалочанае жыта і салома.

Прызнацца, Андрэй нават не рад быў, што ссек гэты дубок: мала што можа стацца! Быць не можа, каб хто не бачыў, як ён пхаўся ўночы з лесу. А языкі ў людзей доўгія. Пад уплывам гэтых думак Андрэй быў неспакойны: спаў кепска і часта абуджаўся, прыслухваўся, што робіцца на дварэ.

Кожны гук, шум, аброненае кім на вуліцы слова прымушалі трывожыцца і думаць чорт ведае што. І якая гэта схованка—гумно? Усякі дурань першым дзелам паткне туды свой нос. Тут

Андрэю прышлі на памяць тыя здарэнні, калі ў гаспадароў знаходзілі дубкі, бярэзінкі і ўсякія падобныя рэчы якраз у гумнах... Трэба перахаваць, і чым скарэй, тым лепей—покі не ўзялі яшчэ тропу.

— Што гэта, Андрэй, на цябе сягоння сну няма?—пыталася жонка.

— Так, не спіцца.

І, памаўчаўшы, Андрэй сказаў:

— Ведаеш, я ўсё думаю, каб не агледзеліся гэтага дубка.

— Можна-ж схаваць так, каб не знайшлі.

— Вось і я гэта думаю: у гумне якая схованка? А дзе схаваць?

— Схаваеш заўтра—будзе часу, а цяпер спі.

Жонка адвярнулася да сцяны і праз мінуты дзве заіграла носам. А Андрэй яшчэ доўга ляжаў з адкрытымі вачыма і разважаў. Страшныя думкі лезлі ў яго галаву. А што, калі хто ўдасць яго? Прыдзе ўраднік, стражнікі з аб'езчыкам і леснікамі, зробяць вобыск і, напэўна, знойдуць у яго дубок. Зноў Андрэю ўспаміналіся падобныя здарэнні. Моташна рабілася ад гэтых думак. Андрэй усунуўся ў шлапакі, накінуў на плечы кажух і вышаў на двор.

Якая цёмная ноч! Здавалася, неба блізка-блізка нахілілася к зямлі і ціснула яе сваім густым і цяжкім мрокам. І ўсё вакол было так глуха, так нема, усёроўна як закамянела або вымерла. Ан-

дрэй зірнуў у той бок, дзе быў лес. Яго аж скаланула: здаецца, цяпер каб і золатам абсыпалі яго, ён не пайшоў-бы туды; як толькі хапіла ў яго адвагі ісці туды, у такую цемрадзь! У сяле было таксама ціха і глуха, нават сабакі і тыя ўсе змоўклі; відаць, і яны чулі гэты страх магільнай цішы і не адважваліся зрабіць між сабой пераклічку. Толькі ў Яхімавым хлевушку забляяла жаласна ягнятка, згубіўшы сваю матку, і зараз-жа пачуўся кароткі адказны водклік старой авечкі: «Ідзі да мяне!»—ды часамі ў свінушніку ціха стагнала праз сон свіння такім змарнелым, стомленым галаском, усёроўна як-бы ёй заставалася тры чвэрці да смерці.

Андрэй пастаяў, паслухаў. Гэта маўклівая і страшная ноч не дала яму ніякага адказу, і ён пайшоў у хату.

«Сягоння яшчэ можна быць смелым», думаў Андрэй, кладучыся на палок і ўкручваючыся ў дзяругу. «Пакуль тое ды сёе, то яшчэ ёсць часу схаваць, а цяпер можна спаць смела». Але Андрэй ляжаў яшчэ з поўгадзіны і думаў, як хітрэй схаваць дубок. На гэтых думках Андрэй і заснуў. І прысніўся яму сон. Здаецца, прышоў ляснік, Максім Заруба, у чыім абходзе ён высек дубок. Прышоў не злосны, як можна-б чакаць, а надта маркотны. Твар яго быў белы, як вымазаны мукой.

— Адабраў, брат Андрэй, ты ад мяне кусок хлеба!—сказаў Максім,—ад цябе я гэтага не спадзяваўся.—Сказаў і невядома дзе дзеўся.

Андрэй стаяў, як аглушаны. Хацеў сказаць слова—язык не варушыўся; хацеў бегчы за Максімам—ногі не слухалі. І, цяжка застагнаўшы, Андрэй абудзіўся.

Ноч, доўгая, жудасная, трывожная ноч, яшчэ цяжка аблягала зямлю. Толькі што адспявалі другія пеўні, і сяло ўсё спала цяжка і глыбока; Андрэй ляжаў і тросся—так узбунтаваў яго гэты сон, і ён быў ясны, жывы і страшны. Трудна выказаць, што рабілася цяпер на душы ў Андрэя.

За ўсе тыя часы, як ён убачыў гэты пракляты дубок, і аж да цяперашняй мінуты Андрэй ні разу не падумаў аб тым, што цяпер яму прыснілася. І не было прычыны так думаць: ці мала людзей крадуць у лесе? Каб за кожную неўпільнаваную кражу ў лесе выганялі леснікоў, то і леснікоў не было-б на свеце.

І чаму-ж ён прысніўся, і прысніўся так нядобра? Цяпер Максім ні на адзін момант не сходзіў з вачэй Андрэя, Андрэй успомніў, што яны з Максімам калісь сябравалі, разам гадаваліся, разам былі на прызыве і ў адзін год жаніліся, і ўжо потым разышліся не з-за якога ліха, а так проста, разлучыліся; а сходзіліся—кожны з іх мог смела паказаць вочы адзін другому. І Андрэй першы раз пачуў, што нейкая сцяна вырасла ў гэту ноч між ім і Максімам. Андрэю было чагось шкода. Чаго? ён і сам не ведаў.

Гэта была цяжкая і неспакойная ноч у жыцці Андрэя.

## IV

— Ну, што ў цябе чуваць? Парубкі ў лесе няма?

Максім пачуў, што па спіне ў яго запоўзалі мурашкі, нейкі холад прабег па ўсім яго целе. Маленькае замяшанне, і Максім цвёрда сказаў:

— Усё ў парадку.

— У парадку? Ну, то хадзі-ж, я табе пакажу, які ў цябе парадак.

Сказаўшы гэта, аб'езчык, сярэдніх год чалавек, правая рука ляснічага і пярвейшы шэльма, скрыва і злосна зірнуў на лесніка і павёў яго ў лес. Максім увесь задрыжэў. Залажыўшы руку за спіну і крэпка сціснуўшы стрэльбу, ён моўчкі ішоў за аб'езчыкам. Ён добра ведае, куды вядзе яго гэты кат і што хоча паказаць яму.

«Вядзі, няхай цябе сляпога водзяць. Кланяцца табе не буду і прасіць тваёй ласкі не стану. Што будзе, то будзе», думаў, ідучы Максім.

— Ці не будзеш ласкаў зірнуць,—гаварыў тым часам аб'езчык, правёўшы лесніка на тое месца, дзе колькі дзён назад стаяў дубок. Аб'езчык добра націкаваў гэта месца, і ў яго наўперад усё было разлічана. Нават яго далікатная прамова да лесніка была абдумана раней, каб злосна нацешыцца з таго, як будзе выглядаць Максім Заруба, стоячы перад пнём ссечанага дуба. Але працягнутая рука яго так і засталася: перад імі было гладкае месца, і вакол стаялі дзеравы, ды

дзе-ні-дзе тырчэлі абросшыя мохам даўнейшыя пні. Максім пазіраў на аб'езчыка поглядам чалавека, які нічога не цяміць і чакае тлумачэння.

Аб'езчык зірнуў на Максіма. Чуць значная ўсмешка прабегла па губах лесніка. Нават ёлкі, якім на гэтым месцы было крыху прастарней, здавалася, усміхаліся, пазіраючы на аб'езчыка—такую дурную ён меў міну ў гэту мінуту.

— Што за чорт?—сказаў ён.—Тое самае месца, а дзе-ж пень?

— Мала тут пнёў?—спытаў Максім, стаўшы на прыкрыты мохам пень нядаўна ўкрадзенага дуба і паказваючы рукою на старыя пні.—Ды і сам пан стаіш, як пень,—не вытрымаў Максім, каб не пасмяяцца з аб'езчыка.

— Ты мне кпінак не строй!—крыкнуў аб'езчык і забегаў вакол лесніка, як ганчак, вынюхваючы сляды.

Улучыўшы мінуціну, ляснік зірнуў адным вокам сабе пад ногі. У адным месцы мох адхіліўся, і з-пад яго свяціўся свежы пень. Максім чуць-чуць пасунуў нагу, каб закрыць гэту лысіну. Аб'езчык, як каршун, зірнуў на лесніка.

— А на чым ты стаіш, ягамосцю?

Максім пачуў, што ён прапаў.

— Стаю, як і пан: нагамі на зямлі.

Аб'езчык раптоўна падскочыў да лесніка, таўхануў яго ў грудзі і кашкянуў нагою мох.

Пень раскрыўся.

— Зладзюга! лес крадзеш, сам канцы хаваеш!— як гад, сіпеў аб'езчык.

У адзін момант усё пазелянела у вачах Максіма, і лес закружыўся, заскакаў. Нічога не разважаючы, размахнуўся ён, і яго цяжкая рука з галасным плескам апусцілася на шчаку аб'езчыка. Шапка зляцела з яго галавы, і сам ён захістаўся і паляцеў потырч носам на гэты пень. Максім накінуўся на свайго ворага і пачаў мяць яго.

— Удушу!—хрыпеў ён, як звер, сціснуўшы аб'езчыка за горла. Аб'езчык звіваўся, як вуж, малаціў нагамі, кусаўся. Вочы яго вылазілі з сваіх гнёздаў.

Памыкаўся ён крычаць, клікаць на помач, але голас яго не мог выбіцца з грудзей, а вокал не было ні адной жывой душы. Адзін толькі лес, нямы сведка людскога глупства, стаяў вокал глухой сцяной і маўчаў, не варушыўся. Відаць, ён бачыў яшчэ не такія справы, стоячы тут вякамі.

— Братка, змілуйся! за што?—енчыў аб'езчык, страціўшы надзею выкруціцца з рук лесніка. Да Максіма вярнулася памяць і розум. З вялікаю нянавісцю зірнуў яму ў твар, борзда падняўся і сказаў:

— Ідзі, жалься на мяне,—і злосна пайшоў у лес.

Аб'езчык падняўся, узлажыў шапку, дзіка азірнуўся вокал і кінуўся бегчы.

— Гвалт, ратуйце!—крычаў ён бегучы.

## V

Досвіта, другога дня Андрэй ужо кошкаўся ў хлеве. Запаліўшы газаўку, павесіў яе на сцяне і, узяўшы сахор, Андрэй адкідаў гной ад сцяны з таго боку, дзе было вышэй. Чорная карова з адной загарадкі, цялушка-выпустка з другой і чырвоны конік уставіліся пільна на гэту цікавую дзею. Толькі адна свіння не хацела звяртаць увагу на Андрэя. Яна спакойна ляжала ў сваім бярлогу і, здавалася, ніколечкі не дзівілася, як-бы даўно ведаючы, што і чалавек зазвычай бывае свіннёй. Прабраўшы яму і выслаўшы яе саломаю, Андрэй перанёс сюды з гумна дубкі, закрыў іх тоўстым пластам саломы і наверх нагарнуў гною. Скончыўшы работу, Андрэй акінуў вокам гэты куток, і на твары яго з'явілася ўсмешка здаваления.

— Згніюць тут, калі я сам не дастану іх,—сказаў сам сабе Андрэй і спакойна вышаў на вуліцу. Тут ён пастаяў, высмактаў люлькі са дзве, павітаўся з суседзямі і суседкамі, каторыя ішлі па ваду, і, як чалавек, якому няма чаго баяцца, пайшоў уладжвацца каля гаспадаркі. Ходзячы па дварэ, ён нават мармытаў сабе пад нос нейкую песню: «Шапка мая магерачка».

Прайшло дні два. За гэты час не выявілася нічога такога, што-б магло патрывожыць Андрэя, і ён ужо рыхтаваўся дастаць з-пад гною дубкі, каб пусціць іх у дзела. Якраз прышоў да яго сваяк Яхім Бубен.

— Чуў ты,—гаворыць Яхім:—Зарубу гоняць вон з стражнікоўства.

Андрэй паблядпеў. У сярэдзіне ў яго нешта заныла, як-бы адарвалася, і ён пачуў, як сэрца яго затахкала дробна-дробна.

— Завошта?—спытаў ён.

— А хто яго ведае. Кажуць, аб'езчыка пабіў,—парубка там нейкая знайшлася ў лесе, ну і завяліся. А можа так абгаварыў яго аб'езчык, хто іх там разбярэ... От, прасіся за стражніка,—закончыў Яхім.

— А!—махнуў рукой Андрэй,—служачы хлеб—сабачы.

— Ну, не скажы гэтага. Можна, брат, жыць лепш, як на гаспадарцы: паша—дарэмная, дровы—дарэмныя, поле, сенакос, сякі-такі абрывак—жыць можна.

— Э, брат Яхім, дзе ён ёсць—лёгкі хлеб? Добра служыць з добрымі людзьмі. А калі пачнуць кусаць адзін другога, то доўга не паслужыш... За які-небудзь паршывы дубок, зжалься божа...

Тут Андрэй замнуўся.

— Не, лепш, брат, не знаць такога хлеба.

Яхім бачыў, што Андрэй не хоча, не мае ахвоты быць лесніком. Ну, яго воля.

Усё сяло гаманіла пра Максіма, разбірала яго справу на ўсе лады. Адны трымалі руку Максіма, шкадавалі яго; другія—наадварот, былі рады, бо зайздросцілі яму. А наогул нікога блізка не чапа-

ла тое, што чалавек страціў кавалак хлеба і ніколі не цікавіла, як ён страціў яго. Пра гэта ведаў адзін толькі Андрэй. Але ўсё тут абярнулася так, што яму не выпадала падзяліцца з людзьмі сваімі думкамі. Гора не ў тым, што людзі не прымаюць нашых думак або насміхаюцца з іх: тут мы можам хоць цешыць сябе тым, што нашы думкі калі-небудзь знойдуць для сябе лепшы грунт, ці тым, што людзі яшчэ не дараслі да іх, і ўсё-ж такі мы можам смела гаварыць іх, крычаць, не саромячыся паказаць іх прад вачыма ўсяго свету. Але цяжка таму, хто не можа смела сказаць аб сваіх думках, хто баіцца вынесці іх з сваёй душы на людскі суд і хто мусіць насіць іх, як атруту на сваім сэрцы. Такія нядобрыя думкі апанавалі цяпер Андрэя. Як-ні-як, а ён быў прычынай таго, што чалавека выпіхаюць вон на зіму без кавалка хлеба... Праўда, Андрэю яшчэ не верылася, што гэта праўда. Яму зрэдку думалася, што ўсё гэта можа яшчэ ўладзіцца, і Максім застанецца. А можа тут хаваецца зусім іншая прычына? Гэтыя думкі на момант супакойвалі Андрэя, і ён уважна прыслухваўся, што гавораць людзі. На другі дзень не заставалася ніякага сумнення, што Максіма гоняць. Цяпер пачалі гаварыць ясней і аб прычыне, па якой яго выганяюць. Максім, казалі, прадаў дубок у лесе. Моташна было Андрэю слухаць такія гутаркі—проста свет здаваўся яму нямілы.

Здаецца, узяў-бы, завязаў вочы і ішоў-бы няведама куды, абы знайсці заспакаенне, абы не чуць той згрызоты, што была на яго сэрцы.

І чаго яму было лезці ў гэты лес? Сядзеў-бы сабе спакойна і гора не знаў-бы.

Эх, здаецца, каб нічога гэтага не было, каб яно толькі прыснілася яму! Усё-б было добра, каб не гэты дубок.

## VI

Як толькі настаў вечар і добра сцямнела, а людзі крыху аціхлі, Андрэй зноў пайшоў у хлеў, адгарнуў гной і павыносіў дубкі на дрывотню.

Відаць, Андрэй нешта надумаўся. Прыхіліўшы дубкі да сцяны, Андрэй доўга пазіраў на іх. Хвацкія дубкі. Важнецкія вышлі-б спіцы для колаў. А паліцы на сохі!.. На момант Андрэй забыўся аб тым, чаго ён прышоў, і ўзяў самы таўсты кавалак дубка, палажыў яго на плечы і панёс ў Нёман. Гэта была яго афяра сумленню, гэтым хацеў ён выкупіць свой грэх прад Максімам і вярнуць спакой душы. Несучы дубок, Андрэй раздумваў над тым, ці добра ён робіць, ці ёсць тут які-небудзь толк. Колькі раз ногі яго ішлі павольней, ён азіраўся назад—ці не лепш вярнуцца, ды зноў схаваць іх?

— Э!—казаў сам сабе Андрэй.—Збуду з галавы гэты клопат, раз пакончу з гэтым ліхам!

І борзда пайшоў на бераг Нёмана. Апусціўшы павольна дубок, Андрэй узяў яго за адзін канец,

а другі апусціў у ваду. Нёман зараз-жа падхапіў яго на свае плечы, і Андрэй адразу пачуў, як яму стала лягчэй у руках. Тут ён з усёй сілы штурхнуў камлюк на ваду. Дубок стралой панёсся на сярэдзіну, і толькі гладзенькая палоска вады абазначылася яго следам, і ён прапаў у халодных і чорных ад мроку хвалях Нёмана.

— Якому-ж лысаму чорту гатаваў я гэты дубок?!—крычала нешта ў Андрэі.—Для каго я выпакутваў яго сваёй крывёй? Хто спажыве боль мазалёў маіх?

І Андрэй забегаў па беразе Нёмана. Ён пабег наніз, туды, дзе за нортамі прыгожа разлёгся шырокі гак у той надзеі, што вада вынесе камлюк дуба на бераг... Бегучы, Андрэй папаў у вырытую свіннямі яму і ўпаў, ляпнуўшыся жыватом, на халодную і мокрую зямлю. Падняўшыся, ён зноў пабег. Во і гак. Але ноч была такая цёмная, што нічагусенька не было відаць. На другім беразе глуха шарасцеў вецер у сухіх лозах і чаротах. Халодная, як жалеза, вада плюхала ў пустыя берагі і ўсхліпвала, як маці, страціўшы дзяцей сваіх...Пастаяўшы колькі мінуцін, Андрэй пайшоў дадому. Раз пачаў,—трэба канчаць. Усёроўна не на карысць яму вырас гэты дубок. Андрэй узышоў на свой двор.

— Андрэй, гэта ты?—аклікнуў яго голас.

— Я,—аказаўся Андрэй.

— Дзе цябе чэрці душаць?—спытала сярдзіта жонка,—вячэра даўно стыне!

— Чорт не возьме, тваю вячэру,—адказаў Андрэй і палажыў на плечы два кавалкі дуба.

— Куды ты іх валачэш?

— Не табе ведаць.

Жонка змоўкла, а Андрэй зноў пайшоў на бераг. Ён быў злосны, ішоў борзда, а жонка назіркам ішла за ім. Яна зацікавілася, куды нясе Андрэй гэтыя дубкі. Спыніўшыся на беразе, Андрэй паўкідаў абодва кавалкі ў ваду. Жонку ўзяў нейкі страх. Ні слова не гаворачы, яна пабегла дадому. Ёй здалося, што Андрэй звіхнуўся з розуму.

Праз поўгадзіны Андрэй вярнуўся. Моўчкі зняў ён шапку, распеазаўся, павесіў світку і сеў за стол.

Жонка не ўтрывала і пачала распытваць.

— Ат, не дуры ты мне галавы,—адмахнуўся Андрэй.

— Ну, ці-ж ёсць у цябе розум! Навошта-ж было іх сеч? Каму з гэтага карысць?

— Чорту лысаму!—сказаў Андрэй.

— Толькі-ж чорту... Хіба іх агледзеў хто?—не адступалася жонка.

— Во дзе яны ў мяне сталі, дубкі гэтыя!—сказаў Андрэй і паказаў рукой на горла.—Чалавека вось выгналі з-за іх, а ты...

— Дык ты вярнуў яго гэтым?

Андрэй не знайшоў, што сказаць, маўчаў

## VII

Яшчэ больш заблутаўся Андрэй. Толькі цяпер ён пераканаўся, што кідаць дубкі ў ваду была дурная выдумка. І праўда: ці вярнуў ён гэтым Максіма на месца? Ці дастаў сабе спакой? І хіба можа адкупіцца ад сумлення тым, што ён пакідаў у ваду дубкі? «Дурань я», думаў Андрэй, трасучы карове трасянку. Ухадзіўшыся, Андрэй вышаў на вуліцу. Вось ужо колькі дзён ён староніцца ад людзей і жыве толькі сам сабой, сваімі думкамі, што так моцна стамілі яго душу. У сяле, у тым яго месцы, дзе вуліца выходзіць к Нёману, стаяла даўней старая карчма. Гэта карчма, бывала, біткам была набіта людзьмі. Сюды схадзіліся і ў радасці, і ў горы; тут была гарэлка, якая, так кажуць знайкі па часці выпіўкі, была і крапчэйшая, і таннейшая, і шмат прыямнейшая ад цяперашняй манапалькі. Па старай памяці, сюды ўсё яшчэ цягнула сялян гэта месца, дзе калісь стаяла карчма, ад якой застаўся адзін толькі падмурак; і тут стаялі яны, усунуўшы ў зубы цыбукі і схаваўшы рукі ў рукавы кажухоў, пад адкрытым небам. І гэтым разам былі тут мужчыны, і сярод іх ішла сур'ёзная гутарка. Андрэй стаяў здалёк адзін і не адважваўся падыходзіць бліжэй. Раптоўна ён задрыжэў: у гэтай кучцы сялян быў Максім Заруба. Андрэй быў павярнуўся, каб ісці назад, але яго цягнула нейкая сіла да гэтай кучкі. Патаптаўшыся момант на адным месцы, ён зноў павярнуў назад. Максім стаяў і штось гаварыў. Аб чым ён

гаворыць? Андрэй не мог больш праціўіцца жаданню ведаць, што гаворыць загублены ім чалавек, і ён пайшоў. Яму паказалася, што людзі глядзелі на яго так, як-бы ведалі ўсю справу з дубком. Андрэй прывітаўся з сялянамі агульным «дзень добры», а Максіму працягнуў руку і нясмела сказаў:

— Здароў, Максім!

— Здароў, брат Андрэй! Ну, Андрэй,—сказаў Максім,—прымай, брат, у падсуседзі.

Сэрца ў Андрэя так і апала: няўжо Максім ведае, што ён, Андрэй, ссек дубок—чаму загаварыў а падсуседстве? Не! каб ведаў, то наўрад-бы падаў яму руку, не толькі звярнуўся-б да яго з такой просьбай.

— Завошта-ж, брат, цябе выдалілі?—спытаў замест адказу, нібыта нічога не ведаючы, Андрэй.

— Тырчэў на дарозе пень, пакуль за яго не чапляліся, а сталі чапляцца—пню не стрымацца.

— Дык не за дубок адказалі ад месца?—з жарам спытаўся Андрэй, і вочы яго прасвятліліся.

Максім нахмурыўся, як-бы цень лёг на яго лоб.

— Скуль ты ведаеш аб дубку?

— Каму і не ведаць, як не Андрэю,—пажартаваў Стаська Гук.

Андрэй змяшаўся, пабляднеў і сказаў:

— Так гавораць.

Андрэй зірнуў на Максіма. За апошнія часы Максім асунуўся, пахудзеў. Вочы яго глыбока запалі ў лоб. Відаць, многа горкіх думак, трывогі і

клопату перамятушылася ў яго мазгах. І было з чаго: што злога ён зрабіў? За чыю віну паплаціўся? І куды цяпер дзецца? Андрэй, як праступнік, апусціў галаву. Момант, і ўвесь здрыгануўся, падняў галаву, акінуў усіх паглядам.

— Максім, браткі! Гэта за мяне ты пакутаеш: гэта я ссек дубка! Рабі са мной, што хочаш. Бі, катуй мяне!

Усе змоўклі і пазіралі на Андрэя.

— Няхай будзе пракляты той час, калі я першы раз зірнуў на гэтае няшчаснае дрэва. За што церпіш ты?

Максім горка ўсміхнуўся.

— Ты ссек дубок? Вось ніколі не спадзяваўся!.. Э! цяпер ужо ўсёроўна. Табе можа і лягчэй, а мне—адзін чорт. Ды калі на праўду вышла, то ты не такі ўжо вінаваты, як табе здаецца... О, каб я цябе злавіў у лесе, то быў-бы другі рахунак. А цяпер твая споведзь паможа мне, як мёртваму кадзіла.

— Паможа, паможа!—закрычаў Андрэй,—я пайду ў лясніцтва і раскажу ўсю праўду. Няхай мяне судзяць, няхай забяруць апошнюю карову, няхай пухнуць з голаду дзеці, не кажы толькі, што Андрэй цябе загубіў!

Андрэй крута і з сілай павярнуўся.

## VIII

— Смейцеся добрыя людзі: здурнеў зусім чалавек!—пачакаўшы з поўгадзіны, чуўся жаночы голас каля Андрэевай хаты.

Андрэй, апрануўшы кажух і ўзяўшы палку, вы-

шаў з двара на гароды, каб не ісці вуліцай, а жонка стаяла каля парогу і адчытвала Андрэя.

Андрэй маўчаў. Твар яго быў сур'ёзны, важны і спакойны.

— Вярніся, вярніся, Андрэй,—не ўнімалася жонка.

Андрэй не слухаў і сцігаў дальш, не азіраючыся.

— Што з ім сталася? пагібелі сабе і дзецям шукае чалавек... Каб ты ногі паламаў, каб ты дарогі не бачыў! Вярні-і-ся!

Жонка яшчэ доўга плакала і галасіла, а Андрэй тым часам мінуў ужо сяло і вышаў на дарогу. Ваков рассцілалася поле, голае, пустое, ababранае Збоку пацягнуўся луг наабапал Нёмана. Там і сям стаялі парыжэлыя стагі. Далей перад Андрэем пачынаўся лес, праз які ішла дарога. А над усім гэтым вісела хмурае неба, як кепска зааранае поле. На ўзгорках патыхаў халодны паўночны вецер, гразь сціскалася марозікам, пад нагамі цвярдзела. Гадзіны праз паўтары Андрэй быў у лясніцтве.

За сталом у канцылярыі сядзеў стары ляснічы. Гэта быў няўступчывы чалавек, з якім было трудна дайсці да ладу.

Пераступіўшы парог канцылярыі, Андрэй нізка пакланіўся. Ляснічы кіўнуў галавой і зноў стаў пісаць. Потым павярнуў галаву да Андрэя.

Пажваўшы сківіцамі, пан запытаў:

— А што скажаш, чалавеча?

— Панок!—сказаў Андрэй і ўвесь падаўся наперад,—дарэмна пакаралі Максіма Зарубу; я ўкраў

дубок! Каб я не прыждаў, калі я са згодай Максіма высек гэты дубок.

Ляснічы, вытарашчыўшы вочы, пазіраў на Андрэя. Пажваўшы сківіцамі—такі быў звычай у старога пана жваць сківіцамі прад тым, як гаворыць,—ён сказаў:

— А заўважай, небарача: ты гаворыш—дуб высек?

— Я, я, паночку!

— Гм, то які-ж бы ты быў гаспадар, каб не краў у лесе?—спытаў ляснічы.

— Панок, залаценькі! Даруй, панок, Максіму! Я вінават, штрафуйце, судзіце мяне. За што-ж будзе нявінны чалавек цярпець?

— Табе Максім не сваяк?

— Не, панок, не свой.

— То, мусіць, быць ён цябе падгаварыў?

— Панок, грэх гаварыць гэта! Максім нічога не ведаў. Толькі сягоння пры людзях я прызнаўся яму, і сам сабою прышоў да пана. Даруй, паночак, Максіму. Няхай лепш мяне пан судзіць. Я вінаваты, і я павінен адпакутваць.

— Ха-ха-ха! А заўважай, небарача: смешны ты чалавек. Вось-жа не буду ні штрафаваць, ні ў суд падаваць, калі ты гэтага просіш. А Максіма не прыму, бо ён забіяка, разбойнік.

Доўга прасіў Андрэй ляснічага, але пан быў цвёрды і стаяў на сваім.

...Грудкі хмарак разгладзіліся, неба пабялела, і пайшоў дробненькі сняжок, як Андрэй ішоў з

лясніцтва. Усю дарогу разважаў Андрэй у сваіх думках. На душы яго стала спакайней, як пасля кожнай буры. А снег усё падаў гусцей; зямля забялелася. Лес стаяў спакойны; толькі ўгары шумелі паціхеньку хваёвыя галінкі, як-бы віталі першы сняжок. А можа яны шапталі што Андрэю, як шэпча маці, схіліўшыся над дзіцём, расказвалі сваёй мовай аб тым, што Андрэй сапраўды не такі вінаваты, як гэта крычыць яму кожную хвіліну яго чуткае сумленне. Эх, лес! колькі чаго давялося бачыць яму на сваім вяку. Многа ён ведае ўсяго! І каб Андрэй расчытаў яго гутарку, то зусім-бы інакш пазіраў на свет.

І ўспомнілася Андрэю старая казка, якую даўно-даўно, у шчаслівыя годы яго дзяцінства, расказвала нябожчыца-бабка.

«Скінула неба на зямлю дзіўны клубок. Усіх карміў гэты клубок, і карміліся ім людзі, карміліся зверы і птушкі і розныя маленькія жывёлінкі, бо для ўсіх прадназначыла яго святое неба. І ўсе жывіліся, і для ўсіх яго ставала. Пазайздросціў гэтаму злыдзень, і нямаведама дзе дзеўся дар неба. І цяжка стала жыць на свеце. Зямля пачала бяднець і спустошвацца. Дзе былі даўней шырокія рэкі, там засталіся цяпер чуць значныя палоскі вады; дзе і зусім яна высахла—парабіліся пустэчы. Лясы сталі звадзіцца, развёўся бруд, што накінуўся на чалавека і стаў піць яго кроў. Зямля пачала кепска радзіць: пайшлі па свеце паморкі, паўстала сварка, калатня, бойка Людзі сталі тры-

вожныя, неспакойныя, усё чагось спадзяюцца, чагось шукаюць, да чагось прыслухваюцца. Само неба пахмурнела і адвярнула ад зямлі свой воблік».

Лес кончыўся. Во бераг Нёмана. Вярсты дзве адгэтуль угару пакідаў Андрэй дубкі. Ён ішоў берагам, прыглядаўся, як-бы чагось шукаў. Вакол было пуста А снег усё сыпаў і сыпаў.

1913 г





# НА НАЧЛЕЗЕ

## 1

Немалады ўжо чалавек Тамаш Чучка, і не яму-б ездзіць на начлег. Праўда, начлег не такая ўжо цяжкая рэч, але што ні кажы, усё-ж такі старым касцям куды лепш было-б ляжаць на сенніку каля печы. Але хто-ж паедзе? Якуб, можа, гэтымі днямі прыдзе з плытоў, а покі што трэба збірацца. Падапрануўшы кажушок і падперазаўшыся путам, Тамаш вышаў з хаты.

На вуліцы ўжо тупалі капытамі коні, бразджалі званкі сіпаватымі галаскамі. Начлежнікі ехалі шумна. Сярод іх было колькі дзецюкоў, а найболей усё былі дзеці—хлопцы-падшывальцы; былі тут і дзяўчаты. Уся гэта галда крычала, гаманіла; дзецюкі, а за імі і жэўжыкі-хлопцы пазвалялі сабе залішняе: ніводнай хаты не прапускалі яны,

каб не выкінуць якой штукі пра гаспадара, гаспадыню або іх дачку.

Едуць, скажам, каля Дзямяновай хаты. Ну, Дзямян дык Дзямян—чалавек, як і ўсе людзі. Не! ім трэба зачапіць чалавека. Ось пад'язджае адзін да акна, спыняе каня і пытае:

— Дзямян дома?

— Дома,—чуецца з хаты.

— Тэм-латадэм, Дзямян дома!—крычыць распуснік і едзе далей. За ім едзе другі, трэці і гэтак усе.

— Дзямян дома?

— Тэм-латадэм, Дзямян дома!—падхопліваюць усім гуртам.

Кожны ведае, што «тэм-латадэм»—глупства, словы без сэнсу, але ў канцы Дзямяну так намазоліць вушы гэта «тэм-латадэм», што ён зрываецца ў адных портках і кашулі, хапае качаргу і вылятае, як бура, на вуліцу. Гэтага толькі і трэба падшывальцам. Яны з крыкам і смехам задаюць махні-драла вярхамі на конях. А Дзямян, лаючы і праклінаючы іх, бяжыць за імі вератняў два, пакуль дух не захопіць яму. Пад'ехаўшы да Тамаша, начлежнікі зацягнулі песню:

У нашага Тамаша
Гразь цячэ з капелюша.

— А ты глядзі от, каб у цябе з носа не пацякло,—спакойна адазваўся Тамаш, падводзячы каня да плота, каб сесці вярхом. Каню, відаць, не вельмі падабаецца несці на сабе гаспадара, і ён,

як толькі Тамаш нарыхтуецца сесці, зараз-жа ўцякаў ад плота. Тамаш крычаў на каня, зноў цягнуў яго да плота, пакуль сяк-так не ўшчарэпіўся вярхом.

Начлежнікі ўжо ад'ехалі далёка, калі Тамаш выязджаў з двара, ды яно і лепей: якая яму кампанія гэтая блазнота? Толькі выскаляцца будуць, а конь і сам патрапіць за імі.

II

Начлежнікі выбралі высокі сухі груд, каб можна было прылегчы і разлажыць агонь. Кожны начлежнік вёз з дому па палену дроў, бо луг быў голы, як бубен. Спыніліся начлежнікі, спыніўся Тамаш; ён спутаў свайго каня, павесіў яму на шыю перавясла, каб заўтра скарэй знайсці свайго каня, і прылёг воддаль ад гэтай маладой галды.

З шумам і гамам раскладалі начлежнікі агонь, штурхаліся, дурэлі. А Тамаш, скінуўшы капялюш і ўзняўшы ўгору вочы, пазіраў на яснае зорнае неба. Зоры, як матылёчкі, трапыхаліся, дрыжэлі, і іх бляск пераліваўся дзівоснымі колерамі незлічоных агней. За лугам чуць-чуць выступала сваім чорным абрысам зубатая палоска яловага лесу, а над ім мігацелі чырвоныя стужкі трывожных зарніц. Кругом было так спакойна, так ціха і лагодна, што душа мімавольна адрывалася ад зямлі і неслася ў невядомую высь, каб зліцца з характавом, з безгранічнасцю гэтага таемнага, неразгаданага свету, і нейкая беспрычынная радасць разыходзілася па ўсіх закутках цела.

Тамаш лёг на спіну, падлажыўшы пад галаву рукі. Доўга ён ляжаў гэтак і разважаў у сваіх думках. Аб чым думалася, ён і сам не адказаў-бы, каб яго хто спытаў аб гэтым. Думкі самі ішлі і праходзілі, бы тыя лёгкія хмаркі на небе,—ішлі і раставалі, як сняжынкі.

А там, каля агню, варушыліся і бегалі дзеці, адтуль несліся песні і выкрыкі. Памалу ўсё супакоілася. Толькі смех, дружны і закатны, гаварыў, што каля агню яшчэ не спяць. Тамаш зацікавіўся і стаў прыслухоўвацца. Пачуўся сабачы брэх, праўдзівы сабачы голас. І зараз-жа вырваўся дружны рогат начлежнікаў. Тамаш падняўся і падышоў да агню.

Начлежнікі сядзелі ў кружок. Пасярэдзіне гарэў агоньчык, а каля агню сядзеў хлопчык Пятрусь. Ён і пацяшаў начлежнікаў. Пятрусь, як ніхто, умеў паказваць, як брэша чый сабака.

— Ну, а як брэша Гаронімаў Лыска?—пыталі Петруся.

Пятрусь брахаў. І ніхто не падумаў-бы, што гэта брэша Пятрусь, а не Гаронімаў Лыска.

Тамаш слухаў, і губы яго самі разнімаліся для смеху.

— І крошкі пабраў,—сказаў, гаркаючы, Тамаш.

— Пятрлусь!—не вытрымаў Тамаш,—а як, брлат, мая сучка брлэша?

Жулік Пятрусь зірнуў на Тамаша.

— Гэрл!-гэрл!-гэрл!—перадражніў ён Тамаша і яго сучку.

Усе так і паехалі са смеху.

— От брладзяга,—сказаў Тамаш і плюнуў.

Тамаш пасядзеў яшчэ колькі мінуцін; гаворка начлежнікаў, крык і шум неяк адляталі ад яго і не трывожылі; потым ён прылёг, падпёршы рукою галаву. Сон непрыкметна замкнуў яму вочы, рука саслабела, і галава сама з'ехала на распрастаную руку.

## III

«Што са мною? дзе я?»

Тамаш узняў галаву і стаў прыглядацца. Ён чуў, што нешта цяжкае навалілася на яго плечы, і паварнуўся. Гэта мяккае і цяжкае без шуму спаўзло з яго. Яму было холадна, усе часткі яго цела дрыжалі ад ранічнай вільгаці. Тамаш успомніў, што тут павінен быць агонь. Але дзе-ж начлежнікі? Ні агню, ні начлежнікаў не было і почуту.

«Што за праява?»—Тамаш правёў рукою па тва-ры, працёр вочы. Змрок і туман, прадвеснікі раніцы, густа віселі над зямлёю і ўсё закрывалі ад вачэй. Усюды было ціха. Тамаш стаў прыпамінаць месца, куды прыехалі начлежнікі, прыпомніў вечар, жарты начлежнікаў, Петруся-брахуна. Не без пачуцця крыўды ўспомніў ён гэтага самага шэльму, які састроіў кпіны з яго, паказаўшы, як брэша яго сучка. А што было далей? Ці то яму снілася, ці гаварыў хто з начлежнікаў... Тут Тамаш увесь закалаціўся. І вось што цяпер яму ўспомнілася. Было гэта на начлезе. У адным месцы тварылася штось страшнае і няўцямнае. Нейкая сіла (ведама, нячыстая) не давала людзям

спаць на гэтым месцы. Сядзяць, гавораць—нічога, а як толькі задрэмлеш, зараз-жа з-пад цябе ляціць вобруць, шапка, люлька; халат здзярэ і закіне так, што не скора і знойдзеш. Ці не стаўся і ён, Тамаш, афярай чортавай сілы?

Тамаш здрыгануўся: яму стала страшна. Рука яго кранулася чагось мяккага і вільготнага; агляну ўся—купіна; яна нібы заварушылася, і на ёй на момант бліснуў агоньчык. Шапка ўзнялася, валасы паўставалі на галаве Тамаша, ён усхапіўся і пусціўся наўцёкі. Але не прабег Тамаш і дзесяці крокаў, як уляцеў у нейкую багну. Тамаш крута павярнуў назад. Лапаць заеўся ў гразь, і нага вылузалася з яго.

Бегучы назад, Тамаш спаткнуўся на купіну і паваліўся. Тут яго апанавала такая злосць, што ён пачаў таптаць і мясіць нагамі з такою сілаю, што купіна зраўнялася з долам, і толькі чорная пляма сталася следам ад гэтай паганкі. Тамаш чуў, што пад нагамі як-бы нешта піснула, але гэта толькі паддавала злосці. І Тамаш яшчэ доўга, як ашалёлы, скакаў па чорнай пляме, падгукваючы:

— Ву! ву! ву!

Знішчожыўшы ў канец купіну, Тамаш скруціў дзве фігі і сунуў іх у розныя канцы свету.

— Вось вам, брладзягі!

У Тамаша з'явілася такая ахвота пакрышыць рэбры яшчэ якому-небудзь чорту, што ён, здавалася, і не рад быў, што на ўсходзе пачынала святлець і што замест чорта звонка паняслося па лузе:

— І-і-га-га-га!

Конскае іржанне прывяло Тамаша да памяці, і ён пайшоў у той бок, дзе былі коні. Прайшоўшы колькі вератняў, Тамаш насунуўся на начлежнікаў. Скурчыўшыся ў тры пагібелі, спалі яны вакол таго месца, дзе быў агонь, а на самым вогнішчы, закрыўшы яго жыватом, ляжаў Панас, першы штукар ва ўсім сяле. Недалёка хадзілі коні. Узяўшы вобруць і нікому не сказаўшы ні слова, Тамаш пайшоў браць каня. Тамаш прыглядаўся, шукаючы каня з перавяслам на шыі. А вось і ён! Тамаш працяг руку, каб узяць каня за грыву. Конь, ухмыліўшы вушы, павярнуўся задам і намерыўся ўбрыкнуць Тамаша. Тут толькі разгледзеў ён наравістую кабылу Андрэя Мотуза. Тамашу стала ясна ўсё. Сярдзіта глянуў ён у бок начлежнікаў. Адтуль нёсся прыдушаны рогат Панаса.

— А каб ты ў чыстым полі рагатаў, каб цябе вон нагамі вынеслі, як ты мяне нёс, каб на тваю шыю вяроўку завязалі, як завязаў ты перавясла на чужога каня, гіцаль ты!

Усход чырванеў, павеяла прахаладдзю.

Тамаш ехаў моўчкі і думаў аб тым, як накпілі з яго начлежнікі.

1908 г.





# ТРЫВОГА

## I

Ужо два тыдні, як над сялом павіс нейкі страх і трывога, чаканне чагось страшнага і неадхільнага. А што паслужыла першаю прычынаю, дык гэта—вялікая суш. Як толькі пачалася вясна, ніводнага не было дождживу. Пасеянае збожжа ў палях і агароды гібелі. На гэтым грунце і пайшлі ўсялякія гутаркі. То тут, то там на вуліцы збіраліся мужчыны і жанкі і разбіралі прычыны, чаму няма дажджу, тут-жа расказвалі розныя страшныя здарэнні апошніх дзён.

А нядаўна пастушкі бачылі такое дзіва, што і ў лысых падымаліся дыбам валасы: на полі совалася ваўчыца, у якой была чалавечая галава. Апроч гэтага, у лесе, як казалі, туляліся катаржнікі, уцёкшыя з астрога. Усё гэтае, узятае разам, і радзіла той страх і трывогу, што, як туман, віселі над сялом.

А на ўсё сяло найбольшым трусам быў Мікола Гляк. Такога палахлівага і баязлівага чалавека, як ён, трудна знайсці. Баіцца ён воўка, баіцца нябожчыкаў, разбойніка, чорта.

Хоць вы азалаціце яго—ніколі не пойдзе ён адзін уночы праз лес. А калі, бывала, захопіць яго ў дарозе шэрая часіна, то каню—бяда! І ўжо яго конік сам ведае: чуць толькі пачне змяркацца, ён не чакае, пакуль Мікола будзе тузаць яго лейцамі і паддаваць ахвоты пугай, а сам, пырхнуўшы для смеласці, выгінаў сваю худую шыю з куртатай грывай і борзда драбязіў таўсматымі ножкамі. А калі Міколу даводзілася ў такі час ісці пяхотам, то ён так шпарка ішоў, што прыходзіў дадому ўвесь мокры. Ішоў ён раз вечарам. Да сяла было яшчэ вярсты тры. На небе ўжо пачалі ўсходзіць першыя зоркі. Раптам з-пад ялоўцавага куста вылецела птушачка. Мікола знячэўку стаў, і з яго грудзей, процiў яго волі, вылецеў жаласны і доўгі крык:

— А-а-а-й!

I

Не спалася ў гэту ноч Мікалаю. У хаце з ім быў адзін толькі Міхаська, яго сын, хлопчык гадкоў шасці. Жонка яшчэ ўдзень пайшла да хворай сястры. Пакуль сяло гаманіла, Мікола сяк-так трымаўся і барукаўся са страхам, не даваў яму надта вялікай улады над сабою. Сонжа, як на злосць, ніяк не замыкаў яму вочы. Праўда, у дзень Мікола даў храпака і выспаўся.

«Трэба кінуць гэты паганы звычай спаць удзень»— думаў ён і хаваў галаву пад коўдру, плюшчыў вочы, прабаваў нават храпці. Але, храпянуўшы раз, ён спалохаўся свайго храпу і зараз-жа перастаў. Тым часам сяло моўкла, ноч усё глыбей і цяжэй насядала на зямлю.

— Міхась! Міхаська!

— Га!

— Ты ўжо спіш, сынок?

— Сплю,—пачуўся з запечка голас Міхася.

— Мажа-б ты, сынок, збегаў да цёткі і паклікаў-бы матку? Скажы—тату нешта нядобра зрабілася.

— Ого! я баюся!

— Дурань ты! Чаго баяцца? Вось сказаў!— стаў бацька высмейваць страхі сына, а сам увесь калоціцца ад страху.

— А як спаткаю ваўчыцу з чалавечай галавой?—сказаў сын.

— Якую ваўчыцу? Што ты пляцеш? сасніў, ці што?

— Сасніў! Ці-ж ты не чуў хіба?

— Дзе? Што?—спытаў бацька апаўшым голасам, а сам пачуў, як уся скура як-бы стала сцягвацца, каб вылузаць яго цела.

А Міхаська стаў расказваць пра ваўчыцу з чалавечай галавой і расказаў гэта такім тонам, што смешна было сумлявацца ў праўдзе.

— Брэшуць!—чуць не плачучы, сказаў бацька.

— Дальбог, татачка, праўда! Вось, тата, не дасі веры! Спытайся ў каго хочаш.

Але тут у Міколы і язык адняўся. Ён баяўся зірнуць у акно, бо быў пэўны, што ў акне ўжо тырчыць страшная галава.

Памаўчалі.

— Міхаська!—зноў адклікнуў бацька сына,—паглядзі ты там на прымурачку мой капшук з тытуном і прынясі мне яго, сынок: нешта захацелася закурыць.

Гаворачы так, Мікола думаў залучыць да сябе сына і палажыць яго з сабою—усё-ж весялей, як чуеш каля сябе жывую душу.

— Дальбог-жа, татачка, не ўстану! Зарэж мяне—не падымуся: я чуў—нешта шаўпатала ў качэргах!

— Цьфу, брыда!—вырвалася ў Міколы.

Цяпер ён калаціўся, як асінавы ліст, і мусіў сашчаміць зубы, каб не ляскалі. Але быў такі момант, што сіла шчамлення перарвалася, і зубы так застукалі, усёроўна, як Марцін Паліваны прабаваў на вялікдзень моц яйца, збіраючыся гуляць у біткі.

А сыну здалося, што гэта нехта бразгае ў акяніцу. Ён падняў галаву і абапёрся на локці.

— Тата!—голасам, поўным перапалоху, аклікнуў цяпер сын бацьку,—нехта трасе акяніцу!

Ці з вялікага страху, ці ад гічаноў, што бацька еў на вячэру, толькі-ж у жываце ў яго як забурчыць! Як-бы хто ў трубу затрубіў!

— Ай!—нема загукаў на ўсю хату Мікалай, ды так страшна і дзіка, што сыну здалося, што ўжо бацьку душаць, і ён з свайго кутка як заякоча!

А бацьку чорт ведае, што здалося.

— Ай, тата!

— Г-г-гу!

І такі справілі кірмаш, што хата траслася.

Мікола ўсхапіўся з пасцелі, як непрытомны. Ён нічога не помніў, звалок з ашостку жончыну спадніцу і накінуў яе на плечы. Бегучы да дзвярэй, вырваў з коміна заткала і выскачыў на двор. Каля яго, уляпіўшыся за зрэбныя порткі, бег Міхаська. А на гэты час праходзіла тут варта. Пачуўшы крык вартаўнікі таксама перапалохаліся. Зірнуўшы туды, адкуль нёсся крык, убачылі агонь. Мікалаева суседка, Лэя, пякла булкі і вышла з лучынай у сені.

— Пажар!—загаманіла варта.

Адзін з вартаўнікоў кінуўся на званіцу і давай жарыць у званы. Абудзілася сяло, падняўся крык, гвалт. З усіх двароў забрахалі сабакі.

— Хто гарыць? хто гарыць?—пыталіся, бегучы, людзі.

Мікола Гляк высунуўся з двара на вуліцу з заткалам у руках і з жончынай спадніцай на плячах.

Убачыўшы Мікалая ў такой вопратцы і з заткалам у руках, цэлая чарада сялян адкінулася

назад і з крыкам: «чорт! чорт»—пусцілася наўцёкі.

— Стойце, браткі! гэта-ж я!—загаласіў Мікалай і пабег за ім з заткалам, а з ім і Міхаська. Але на вуліцы ўжо нікога не было. Ахамянуўшыся, Мікалай узяў за руку сына і сказаў:

— Сынок, хадзем дахаты! І маўчы, нікому нічога ані шэп!..

А назаўтра яшчэ большая трывога павісла над сялом...

1908 г.





# ЖЫВАЯ ВАДА

## I

Даўно, даўно, не за нашу памяць было гэта.

Шчаслівы то быў куточак белага свету.

Вольна жылося людзям у той краіне. Ніхто іх не гнаў, ніхто іх не крыўдзіў, нікому яны не належалі. Багатая, урадлівая была іх зямля. Шырока раскінуліся іх палі, зялёныя травы сенажацей калыхаліся на ветры. Ціха і весела смяяліся кветкі, пазіраючы сваімі пахучымі галоўкамі ў раку, што паіла ўвесь той вугалок і тых, хто жыў і рос там, і давала яму жыццё. Усё жыло каля ракі, гэту раку людзі называлі Жывою Вадою. Усё жывое і нежывое любіла яе, і песні волі разліваліся па ўсіх кутках шчаслівай старонкі.

Але нядоўга астаецца шчасце на адным месцы. Кінула яно і той слаўны куточак.

Нешта страшнае і невядомае для чалавека зрабілася там. Нейкая цёмная сіла пазайздросціла шчасцю людзей.

У тым месцы, адкуль выцякала Жывая Вада, зямля стала ўздувацца; борзда, як грыб, вырастала гара. А Жывая Вада пачала нeяк мялець і скора зусім згінула дзесьці ў зямлі. Толькі след, дзе цякла яна, надоўга застаўся на зямлі і гаварыў людзям пра даўнейшае жыццё.

Гара ўсё расла. Праходзіў час, пусцела зямля, а з гары сыпаўся жоўты пясок і закрываў чорны грунт. Людзі збяднелі, птушкі разляцеліся. Не чутно ўжо было там вясёлых песень. Толькі арлы ды каршуны вілі свае гнёзды на высокай гары, што ўсмактала ў сябе Жывую Ваду.

II

Бяднеў год ад году калісь-та багаты край. Ураджайны грунт засыпаўся зусім пяском. Многа працавалі людзі, многа пралівалі поту. І праца іх прападала, і скупа плаціла зямля за іх работу і пакуту. Развяліся чэрві на іх агародах—некаму было знішчажаць іх, бо каршуны і ястрабы разагналі птушак.

Расказваў бацька сыну пра даўнейшае жыццё—пра багацтва іх края, пра гару, што глынула іх Жывую Ваду, сама стала расці, а жыццё ўсяго края прыгаварыла к маруднай смерці. Глухая злосць на праклятую гару падымалася ў сэрцы людзей, і памяць аб Жывой Вадзе не прападала.

Нямала знаходзілася смелых людзей, што ішлі на гару шукаць Жывой Вады.

Бралі яны рыдлёўкі, раскопвалі гару. Але з гары сыпаліся ў іх каменні, разбівалі ім галовы. Каршуны і ястрабы зляталіся хмарамі, выдзёўбвалі ім вочы. А пугач і сава ўночы спявалі ім «вечны спакой» сваім нудным крыкам.

Многа, многа людскіх касцей валялася вакруг гары, а каршуны і крумкачы разносілі іх па ўсіх кутках спустошанага края. І людзі празвалі сваю старонку Мёртвым Полем.

Дзіка і пуста стала ў Мёртвым Полі. Людзі хадзілі, як цені, галодныя, прыгнечаныя. Птушкі даўно перасталі там спяваць свае песні. Толькі каршуны кружыліся ў небе, каркалі крумкачы і нагнялі нуду на душу людзей, невядомым страхам палохалі сэрца, розум.

Нават лес адмяніўся: старыя дрэвы даўно згнілі і ляжалі ў зямлі, а новыя былі нізкія, крывыя, няўдалыя,—як сухотныя. Рэдка заглядалі туды хмары і мала калі падаў дождж.

III

Насталі сухія гады. Апошні выдаўся такі год, што ні разу не падаў дождж за ўсё лета. Кожны дзень неба заставалася чыстым, ясным, гарачым. Усходзіла сонца, борзда сушыла расу, што блішчэла ранкам, як слёзы, на лісцях раслін. А

сухі вецер гуляў над зямлёю, падымаў гарачы пясок, высасваў апошнія сокі з зямлі. Лес, поле, луг з тужліваю мальбою пазіралі на неба, прасілі вады прагнаць сваю смагу. Дрэвы глуха шумелі і злівалі свой шум у адну доўгую, невядомую людзям песню. Жаласнаківаліся каласы ў полі, то кланяліся зямлі, то падымаліся к небу,—усё роўна як прасілі ратунку.

Ніхто не ішоў ім на помач, і яны без пары старэліся, моўклі і без жыцця качаліся на сухіх саломках. Трава і кветкі ціхутка шапталі ветру аб сваёй нядолі. Цярплівыя каменні і тыя нылі ад жары і лопаліся. Сама зямля зморшчылася, як старушка, пакалолася і плакала. Яе слёзы апошнімі капелькамі расы выступалі наверх, яе просьба белаватым туманам звісала над лесам і разносілася ветрамі па свеце. Плакалі людзі, плакала зямля і ўсё, што расло і жыло на ёй. Незаметна несліся к небу іх слёзы, несліся яны не год і не два, а цэлыя вякі, а там недзе сплываліся ў адно месца. Тыя слёзы, горкія скаргі, усё гора зямлі—змяшаліся разам і звіслі над ёю страшнаю чорнаю хмараю.

## IV

А дзе-ж дзелася Жывая Вада?

Яна была пад зямлёю, яна паціханьку размывала зямлю, прабівала сабе дарогу на вольны свет. Ніхто гэтага не ведаў. Не ведала і гара, што вісіць яна над бяздонніцаю. А Жывая Вада чакала

толькі шчаслівага здарэння, каб скінуць з сябе цяжар,—праклятую гару, што з шчаслівага вугалка зрабіла Мёртвае Поле.

І настаў такі час, што пралітыя слёзы перапоўнілі неба і паліліся назад на зямлю. Не ў сілах было само неба стрымаць тыя слёзы. Самі яны рваліся туды, дзе радзіліся, патроху падымаліся ўверх.

Людская жалоба, гора, пакута, усё няшчасце зямлі, што збіраліся тысячамі гадоў, паліліся цяпер са слязьмі адной хваляй.

Ціхая скарга грымела ў небе страшным галасам грому і калыхала ўсю зямлю; стогны людскія, якіх ніхто не чуў, блішчэлі маланкамі, а слёзы цяклі халоднымі чыстымі ручаямі на зямлю і ажыўлялі яе. Вада збіралася ў адну раку і дружна стала напіраць на гару.

Зрушылася гара; моц яе, камені градам сыпаліся наніз. Арлы, каршуны, крумкачы, ястрабы, совы пазляталі з гары, каб запыніць ваду.

Пачула і Жывая Вада, што робіцца над ёй. Сабрала яна ўсе сілы свае і ўскалыхнула гару, як купіну. Тут яе падхапіла дажджавая рака. Страшны шум пайшоў па Мёртвым Полі.

Усё жывое дрыжала ад страху і чакала пагібелі. Але згінула адна гара. Пяском і дымам развеялася яна па полі.

Гневалася неба, бушавала вада, траслася зямля. Ліліся рэчкі на кожнай разоры і зліваліся з Жывой Вадою.

Прайшоў страшны момант, і стала спакойна. Вада ўся злілася ў старое дно Жывой вады, і жыццё, стрыманае праз доўгі час гарою, зноў пайшло сваёю дарогаю, і ажыло Мёртвае Поле.

1907





# ГУСІ

Гэта было стада звычайных гусей, свойскіх гусей. А калі і зачалася аб іх гутарка, то толькі затым, што ў іх было адно незвычайнае жаданне, якога не было ў другіх свойскіх гусей. Можа яно і было, але не так выразна ў іх яно адзначалася.

Тая рэчка, што цякла тут, была па справядлівасці царыцаю рэк. Такога мноства вады, такой сілы яе імкнення, такіх глыбінь і страшных цёмных віраў, дзе кіпела, бурліла, дрыжэла і ўздымалася шырокімі клубкамі вада, не мела ні адна рэчка.

І самыя берагі гэтай рэчкі былі так прыгожы, так разнастайны, што ад іх трудна было адвесці вочы. Высокія адвечныя горы націскаліся то з аднаго, то з другога берагу, раскрываючы свае перламутровыя пакаты, і адбіваліся ў бліскучай ва-

дзе. Шырокія лугі таксама падыходзілі да рэчкі, рассцілаючы свае пышныя каберцы, сатканыя сонцам з самых тонкіх траў і з самых прыгожых красак.

А лес! Няможна налюбавацца гэтым лесам! Высокі, густы, сакавіты, поўны радасці, смеючыся тысячамі смехаў, які блукаў і на яго камлях, і на яго галінах, і кожным яго лісціку, стаяў ён воддаль, побач рэчкі, расступаючыся перад ёю, як перад пышнаю красуняю-княгіняю, і пачціва звешваў над ёю свой шалаш, жывую зялёную павець. І была ў гэтага лесу нейкая мара, поўная хараства, нейкая патайная думка, поўная чараў, і нейкае невыразнае чаканне чагось вельмі важнага і значнага, і гэта жаданне, здавалася, выявіўшыся, магло змяніць зусім увесь вобраз гэтага жыцця.

Але не гэтыя адвечныя горы, прыкрытыя тонкаю наміткаю сіняватага туману, не гэтыя пышныя каберцы зялёных лугоў і не гэты чароўны лес, што цёмнымі зграбнымі дужкамі, бы чорныя дзявочыя бровы, бег ад рэчкі кудысь к небасхілу,—не гэтым цікавілася гусінае стада, не гэта было іх жаданнем, якое запаўняла іх гусіную істоту. Далёка ўгары рэчкі быў зялёны прыемны астравок—туды хацелі дайсці гусі, туды ляцела іх душа, там былі іх думкі, іх найбольшыя жаданні.

Але пакрыўдзіла прырода гэтых гусей: не дала ім лёгкіх і здольных крылляў, каб маглі яны перанесці гусей праз тыя парогі што стаялі на іх

дарозе і якіх не здолелі перяступіць іх няўклюдныя ногі.

Востраў з трох бакоў быў агароджаны такімі густымі, пераплецэнымі лозамі, што праз іх нельга было гусям праціснуць сваё дзябёлае цела.

І часта гэта стада гусей, спатыкаючыся з другімі гусямі, заводзіла гутаркі пра той павабны востраў і пра тыя дарогі, ідучы па якіх можна было-б дасягнуць да вострава.

І казалі другія гусі, што ніяк не дайсці ім да гэтага вострава; да яго вядуць толькі дзве дарогі: адна дарога—узляцець у паветра, другая—даплыць па вадзе. Бяда толькі ў тым, што гусі лятаць не аматары, а плаваць яны хоць і здольны, але ўгару на вадзе на такой быстрыні, як тут, усёроўна да вострава ім не даплыць.

— А што рабіць?—пыталі гусі з незвычайным жаданнем.

— Трэба ўмець выбраць час,—адказвалі ім.

Першыя гусі не згаджаліся з гэтым.

І доўгая спрэчка вялася між імі.

— Вы пачакайце,—казалі другія гусі,—за нас будуць рабіць, нам будуць дапамагаць другія сілы на зямлі: чалавек, вецер і дождж. Чалавек працярэбіць сцежкі скрозь лозы, вецер параздзімае зрывістыя пакаты гор, дождж іх размые, і сама рэчка таксама нам будзе памагаць. Размыўшы берагі, яна пакоціцца спакайней, а дождж прамые глыбокі жолаб у пакатах гор: тады і можна будзе

дайсці да рэчкі, тады можна будзе плыць па рэчцы і проціў вады.

— Вы—несапраўдныя гусі, бо вы не маеце тых вялікіх жаданняў, якія даюць сілы нам. Вы залішне заплылі салам, і вам наогул страшна ўсякая барацьба, усякае змаганне. Вы—мяшчанскія гусі. Нам трудна толькі ўсплыць на рэчку, але мы знойдзем да яе дарогу.

— Знойдзеце! знойдзеце!—прашумеў вецер.

І нагнаў вецер на неба калматыя, велізарныя клубкі цёмных хмар, узброіла іх сонца маланкамі і громамі, і густа звіслі яны над зямлёю. І патокі дажджу рынуліся наніз. Прайшла навальніца. Раўла і гудзела вада і разрывала зямлю, і пралажыла яна дарогу да рэчкі.

Кінуліся гусі на гэту дарогу. Радасным крыкам вітаюць яны гняўлівую рэчку.

Выплылі гусі на сярэдзіну рэчкі. Павабны астравок вот-вот ляжыць перад імі. З сярэдзіны рэчкі глядзіць ён яшчэ прыемней, яшчэ павабней.

І сіла, незвычайная сіла, з'явілася ў смелых гусей. Як пружыны, ходзяць чырвоныя іх лапкі, як вострагруды чаўнок, рэжа іх цела ваду. А востраў так горне, так прыцягвае іх жаданні! І нічога не гавораць між сабою гусі, адна ў іх воля—даплыць да вострава. Але востраў далёка, далёка ўсё гэты востраў. Плывуць гусі, упіраюцца лапкамі ў ваду.

— Глядзіце! ці не здаецца вам, гусі, што востраў як-бы стаў далей ад нас?—спытала адна гусь.

— Маўчы!—сказаў гусак, што вёў усё стада.— Без змагання і няўдач нічога не даецца на свеце.

Трывога і сумненне закраліся ў гусіныя сэрцы, і пачулі гусі, што сілы бракуе ім і што не ўперад плывуць яны, а назад.

Загергаталі гусі прарэзлівымі галасамі:

— Няма ў нас сілы адалець раку.

— Глядзіце, глядзіце! Востраў усё далей ад нас.

З сярэдзіны рэчкі падаліся гусі ў бераг, каля берагу гусі шукаюць дарог. А там падхапілі іх віры.

І не могуць гусі даплыць, дасягнуць жаданай мэты і на бераг не могуць узыйсці.

І думалі гусі, што справа іх прапала. Але змаганне загартавала іх сілы. Акрэплі іх крыллі, і лёгкім стала іх цела. Махнулі крылламі гусі, срэбраныя пырскі над рэчкай узвіліся, і паляцелі смелыя гусі на той жаданы, на той недасяжны востраў.

1921 г





# САЛАВЕЙ

Гэту ночку па справядлівасці можна было назваць першаю вясноваю ночкаю. Было цёпла і ціха. Над заспакоенаю зямлёю звісала цёмная глыб неба. Бліскучыя матылькі-зорачкі свяціліся і дрыгацелі многакаляровым блісканнем. Здавалася, што ўсе гэтыя самацветныя зоркі-дыямэнты і пазалочаны сярпок маладога месячыка высыпалі гуртом на небе святкаваць нейкае незвычайнае свята. І праўда было свята: і неба і зямля ў гэту ночку сустракалі вясну.

Але найбольшую радасць гэтага вялікага свята адчувала зямля.

Высокія, цёмныя лясы стаялі ціха і паважна, і толькі зрэдку перамаўляліся дрэвы таемным, радасным шолахам. Па глыбокіх лагчынах, у полі, між каменьчыкаў пераліваліся халодныя дробненькія хвалькі жывых ручайкоў. Цёмныя постаці

алешын прыслухоўваліся да гэтага гучнага звону і, здавалася, былі зачараваны мелодыямі вясновых хвалек.

Высока над зямлёю прыгожымі шнурамі ляцелі жураўлі і гусі.

— Глядзіце, глядзіце!—прамовіла адна гусь.— Ці не нашы гэта балоты блішчаць унь там між лесу?

— Нашы, нашы!—радасна адклікаліся жураўлі.

— Так, так! гэта нашы абшары,—пацвярджалі качкі, з шумам несучыся ад аднаго возера да другога.

Дзесь над возерам, каля старога млына, дзе аднатонна шумела вада, наводзячы нейкі спакой і сон, чуліся мілагучныя, крыху засмучоныя галасы кнігавак:

— Кі-і—гік! Кі-і—гік!

Што яны хацелі гэтым сказаць, ніхто добра не ведаў, апрача старога млына.

Адным словам, усе былі вясёлы.

А хто ў гэту ночку спаў, таму сніліся вельмі прыемныя сны. Нават і ў цёмных сялянскіх хатах было весялей. І калі, бывала, сярод ночы абуджаўся хто-небудзь з малых дзетак і сваё абуджэнне адзначаў плачам, то ім звычайна казала іх мама:

— Спі, мой сынок!

Або:

— Спі, мая дачушка! Заўтра будзе цёпла, вясна будзе; пойдзем з табою крапіўку рваць на сняданне.

Дзеці адразу супакойваліся, бо яны бачылі перад сабою мілую вясеньку.

Яны зараз-жа сцішваліся, латвей укладваліся на сваіх пасцельках і з думкамі аб вясне засыпалі салодкім сном.

А гэта красуня-вясна, параскідаўшы сваю пышную кудзельку-кудры—лёгкія светлыя хмаркі,— прыветна ўсміхваючыся тысячамі зорак, спакойна і паважна, як каралеўна, ішла ад поўдня і захада, патыхаючы цёплымі, ціхімі ветрыкамі, цалуючы гэту спакутаваную зямлю з яе стварэннем, будзіла і выклікала яго да новага жыцця.

— Вось і дачакаліся вясны,—казала зялёная жаба, высунуўшы з вады нос.

— Ах, як тут прыемна!—заўважыла другая жаба.

— Дайце хоць свежым паветрам дыхнуць,— адклікнулася трэцяя.

— Эй, запявайла, пачынай песню!

— Песню, песню!—хорам закрахталі жабы.

Запраўскі запявайла прымасціўся на леташняй лотаці, вырачыў вочы, надзьмуў свае дуды-мяшкі і зачаў:

Эй, выходзьце жабы-сёстры,
Пазбылі мы холад востры!

— А ў яго слаўны голас,—кіўнула маладая жаба свайму кавалеру.

— Не перашкаджай, вашэці, слухаць песню!— заўважыла ёй суседка, увесь час не спускаючы ва-

чэй з запявайлы. А запявайла, у сваю чаргу, зірнуўшы на яе, вёў далей:

Ну, крахчэце ўсе за мною,
Вольна стала жыць вясною.

Жабы закрахталі такім дружным хорам, што ўзбудзілі ўсё азярко і патрывожылі сон старога млына.

— Глядзіце, каб толькі не прышлося яшчэ вам плакаць,—буркнуў сабе пад нос стары млын.

Пасля хору зноў выступаў запявайла:

Але бусел даўганосы
Сюды прэцца на ачосы;
Чапля—шыя выгінаста—
Прыляціць да нас—і баста!
Хто разумны і прыўдалы,
Мігам скочыць пад завалы;
А вам, чапля і бацяне,
Хай ў ваччу вам цёмна стане,
Хоць ўздзеньце акуляры,
Не знайсці свае афяры!

Тут падняўся цэлы выбух смеху і шуму. Жабы крахталі: «брава, брава!» і пляскалі лапкамі ў чэсць выдатнага запявайлы.

Адным словам, было тут праўдзівае ігрышча: спевы, скокі і ўсё, што хочаце. Над гэтым возерам, у зараслі каля раўчавіны, дзе срэбнай стужачкаю прабіваўся ручаёк, на арэхавым кусце сядзеў салавейка. Ён нядаўна, зусім нядаўна, прыляцеў з дарогі. Дарога была вялікая і трудная, і пасля дарогі салавейка пачуваўся крыху ўтомленым. Але радасць спаткання і злучэння з дара-

гімі мясцінамі, а таксама і гэта вясенька, гэты жыватворчы подых яе, пах маладзенькіх лісточкаў і ранніх красак падтрымоўвалі ў ім добры настрой і рухавасць. Ён павёртваўся на сухой галінцы арэхавага куста і моўчкі вітаў ручаёк, гэту родную раўчавіну, слухаў, аб чым хто гаварыў. Нават усміхнуўся, слухаючы песню запявайлы.

Светлы ручаёк проста закідаў яго пытаннямі, сам даваў на іх адказы, часта мяняў сваю гутарку, як дзіця, перабягаючы ад аднае тэмы да другое.

— Скажыце, калі ласка,—булькаў ручаёк, пачуўшы запявайлу:—песню зачаў! Сядзіць на гнілой расліне і ўяўляе сябе выдатным песняром. Тфу! Паслухаў-бы хоць ты, як сораму ў яго няма. Паслухаў-бы хоць ты, як іншыя спяваюць.

І ручаёк зачаў сваю песеньку:

Шалду-балду, булі-гулі!
Алешнічкі ўсе паснулі.
Нада мною дрэмлюць лозы
І снуюцца ўдзень стракозы.
Крылцы іх з шаўкоў сатканы
І брыльянтамі убраны.
Беражок мой аксамітны;
Я вясёлы і разбітны,
Я бліскучым паясочкам
Лёг над жоўценькім пясочкам;
Галасок мой, бы ў дзяўчынкі,
Я гуртую тут раслінкі:
Травы, грушка-самасейка,
Са мной дружыць салавейка.
Я з-пад горкі выплываю
І цябе, вясна, вітаю.

— Ну, як вы знаходзіце маю песню?—спытаў ручаёк салавейку

— Ах, што вы там невясёлыя? Вы, мусібыць, утаміліся з дарогі?

— Мілы ручаёк,—адказаў салавейка,—я заўсёды люблю твае песні. У іх столькі жывасці, свежасці тонаў і ўсё новых мелодый, што я проста заслухваюся. Але вось што я мушу зазначыць табе. Мы ўсе так захоплены сваімі радасцямі, што нават і пра вясну забыліся. Выказваць свае радасці, разумеецца, не ёсць загана, але ўсё-ж трэба і меру знаць, каб часам і плакаць не прышлося, як казаў той стары млын

— Што васпан хоча сказаць?—спытаў ручаёк.

— А справа, дружа, вось якая. Я заўважаю нейкі смутак на твары нашае вясны. Я сяджу высока на арэхавым кусце, і кругагляд мой больш шырокі.

— Што такое? што такое?—затрывожыўся ручаёк.

— Я заўважыў, як патускнеў твар вясны, я чую нейкае патыханне холаду. А залатыя кудзеркі красуні-вясны паблытаны злачыннымі вятрамі, што вярнуліся ад поўначы.

— Ах, і праўда: я чую, як-бы нейкі цяжар кладзецца на мае плечы.

— І жабы перасталі крахтаць,—азваўся арэхавы куст.

— Ох, ці не вярнулася зіма!—жалабна прамовіла груша-самасейка.—Мой белы, чысты цвет, мая

краса, мая гордасць пачынае зябнуць. Ох, што-ж гэта будзе!

— Паскачаце дразда—вось што будзе!—прамовіў панура стары млын.

І праўда: пагода мянялася. Пазалочаны сярпок-маладзік пад гэты агульны шумок знік дзесь за горкаю. Матылі-зоркі не так былі яркі. То тая, то другая спяшалася схавацца ў хмарку.

Спярша чуць заметны, халодны вецер смялей і мацней набягаў з-за лясоў, што стаялі на поўнач адгэтуль.

Салавейка сядзеў зусім невясёлы. Ён меў вельмі чулае і добрае сэрца. Яму было шкада вясны, шкада ручайка і гэтых гутарлівых жабак, што так нядаўна спявалі і радаваліся, а цяпер змоўклі. Салавейка азірнуўся наўкол. Унізе раўчавіны святлелася белая паласа снегу. Ён ляжаў далёка ў цяньку, і сонейка яшчэ не магло дабрацца да яго. З сівера падымалася высока белая кабеціна і сярдзіта пагражала вясне сваімі ледзянымі рукамі. А вясна як-бы адступала перад ёю, і твар яе засмучаўся болей і болей.

Салавейка не мог стрымацца і заспяваў:

Ціха, ціха, час трывогі,
Вее смутак на палях.
Знікнуў месячык двурогі,
Плача рэчачка ў кустах.
Анямелі ўсе стварэнні,
Пагражае зноў зіма.
Падсякае ўсім карэнні
Гэта сіверская цьма!

Ты-ж, вясенька, квет ружовы,
Ты красёнцы свае тчы!
Звонкай песняй на лад новы
Над палямі загучы!
Зноў адзенься ў шоўк зялёны,
Косы макамі ўбяры;
На дубы ускінь кароны,
Усміхніся нам з гары!

Салавейка спяваў доўга. Ён укладаў усю любасць, увесь жар свайго сэрца ў гэту песню. І ўсе слухалі яго песню. Паводле таго, як лілася гэта песня, усё вокал пачынала развясельвацца. Халодная здань зімы расплывалася, траціла свае формы і знікала. Злосныя хмары сіверу спадалі наніз. Ярчэй, весялей замігацелі зоркі. Маладая вясна ўсміхнулася так радасна і так прыветна, што ўсюды пасвятлела. На ўсходзе заіграла залатая чырвань, і вясна яснымі косамі цалавала арэхавы куст і свайго праўдзівага песняра.

І калі, бывала, першы раз чулася салавейкіна песня, то людзі казалі:

— Заспяваў салавей, цяпер ужо не вернуцца халады.

1922 г.





# У ЧЫМ ІХ СІЛА

*(Казка)*

## І

Можа гэта быў і не той верабейчык, што прасіў былінку, каб яго пакалыхала. Але з пэўнасцю можна сказаць, што на былінцы ён калыхаўся. Каб я ведаў вераб'іныя імёны, то я і назваў-бы яго, даў-бы яму самае прыгожае вераб'інае імя. Але пра вераб'іныя імёны нічога не было чуваць, і ў календары імёны іх не значацца. Дык будзем называць яго проста Верабейка Калыханчык

Усё гэта адбывалася ў калгасе. Тут былі такія будынкі: хаты з чырвонымі комінамі, клуні, хлевушкі, свіронкі і прыгрэбнікі з нізенькімі, да самае зямлі, стрэхамі. Двары былі прасторныя і вясёлыя. Каля хат раслі кучаравыя вішанькі; былі тут грушы і яблыні. З аднаго боку стаяў цёмны лес.

У лесе жылі звяры і драпежныя птушкі: каршуны, совы, пугачы, ястрабы. Выходзіў часамі з лесу воўк і выглядаў, ці не ходзяць парасяты або другая жыўнасць. Налятала таксама і каршуны, каб забраць бедную курыцу ці якую-небудзь птушку. А птаства тут было многа: былі тут вераб'і, ластавачкі, плісачкі, галубы, качкі і другія.

Верабейка Калыханчык знайшоў сабе жонку, таксама з славутай вераб'інай фаміліі. І сталі яны ўдваіх будаваць сабе хатку. Аблюбавалі яны вельмі добрае месца, і не дзе-небудзь, а пад страхою гаспадарскага дома. Тут было і зацішна і цёпла. Адным словам, такая прыўдалая шчыліна, што рэдка якому вераб'ю здаралася такая ўдача. Калыханчык насіў саломку, сухія карэньчыкі пырніку і наогул матэрыял болей цяжкі, бо ён-жа быў мужчына. Яго жонка рабіла работу болей лёгкую і болей далікатную: яна падбірала пер'е.

Яе нават быў напалохаў раз певень, моцна напалохаў. Вераб'іха націкавала сабе белую курыную пярыну і ўзяла яе ў дзюбку. А гарлан-певень крыкнуў грозна:

— Куды? Куды?

Вераб'іха ад страху выраніла пярынку і адляцела досыць далёка. Певень апамятаўся, відаць, пашкадаваў вераб'іху, і ён ўжо ласкава прагаварыў да яе:

— Бяры! Бяры!

Некаторы час на двары не відаць было вераб'іхі. Думалі, што яна можа з пярэпалаху захварэла. Калыханчык быў надта заклапочаны ў гэты

час. Але аказалася, што вераб'іха сядзела проста на гняздзе пад страхою, а потым прайшла чутка, што ў Калыханчыка ёсць дзеці, цэлых пяць штук.

Ну і рад-жа быў Калыханчык! Карміў сваіх дзетак, пазіраў на іх, цешыўся імі. Калі дзеці трохі падраслі і пачалі шчабятаць, бацькі селі на страсе каля сваёй хаты. Яны адчувалі сябе шчаслівымі: дзеці іх раслі, гадаваліся, дужэлі і былі разумныя. Сярод іх былі хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Называліся хлопчыкі так: Чы-Лін, Чын і Чук, а дзяўчаткі—Чуча і Жычка.

## II

У Калыханчыка і яго жонкі былі не толькі радасці,—быў у іх і клопат, і трывога. Іх дзеці сталі падрастаць і ўходзіць у сілу. Ім ужо было цесна ў бацькавай хаце, ім хацелася на свет, на прастор, на волю. Таксама хацелася і сілу сваіх крылляў папрабаваць. Асабліва неспакойным, жывым і праворным быў Чы-Лін. Але на гэтым прасторы было многа небяспекі. Нядаўна сюды залятаў ястраб. Ён чуць-чуць не злавіў ластавачкі і не задраў курачкі. І толькі храбрасць пеўня Ціпа выратавала няшчасных, бо Ціп учас крыкнуў так моцна, што на яго крык выбегла гаспадыня і прагнала драпежніка.

Параіўшыся з жонкаю, Калыханчык падляцеў да гнязда і сказаў:

— Дзеці, дзеці! Ціха сядзіце! З хаты не вылазіць, калі нас няма, а то пахватае вас ястраб.

— Слабо!—адказаў бацьку Чы-Лін.

Калыханчык засмяяўся ад радасці, што мае такога смелага сына. Ён пацалаваў яго ў самую дзюбку і маланкаю паімчаўся ў каноплі. Астаўшыся дома, Чы-Лін нядоўга сядзеў спакойна. Ён далёка высунуў з гнязда галаву.

— Хачу ляцець! Хачу ляцець!—крыкнуў ён і высунуўся яшчэ больш.

Певень Ціп, пачуўшы гэта, строга перасцярог:

— Куды? Куды?

Чын і Чуча схвацілі неспакойнага брата дзюбкамі за лапкі і не пускалі, а ён крычаў:

— Пусці! Пусці!

Вызвалілў лапкі і паляцеў... Але не ўгору, а ўніз, няспрытна перабіраючы крылцамі.

Чын, Чук, Чуча і Жычка паднялі гвалт. Прыляцелі бацькі. Справілі крык.

Праўда, Чы-Лін досыць шчасліва апынуўся на зямлі каля прызбы. Ён сам страшна перапалохаўся і цяжка дыхаў.

— Сынок! Сынок!—крычала маці.—Ці жывенькі ты?

Чы-Лін шырока разявіў жоўты рот.

— Жыў! Жыў!—адказаў матцы.

Певень, праходзячы каля прызбы, спыніўся, падкурчыў адну нагу і строга зірнуў на беднага Чы-Ліна.

Гэты выпадак з Чы-Лінам меў багатыя вынікі. У той час, калі птушкі думалі пра здарэнне з Чы-Лінам, пры лесе, на сухой дубовай галінцы

сядзеў каршун і пільна сачыў за тым, што робіцца навокала. Каршун быў стары, вялікі, з загнутым сярпом-дзюбай, з доўгімі і вострымі кіпцюрамі. Улучыўшы мінуту, стралою мільгануў ён у паветры і ў момант вока схапіў кіпцюрамі куранё ды панёс у лес.

Ой, якая паднялася тут суматоха, трывога!

Мацней за ўсіх крычаў певень.

— Куды панёс? Куды панёс?

Закружыліся галубы: падняліся высока, высока ў неба. З усіх канцоў пазляталіся ластавачкі.

— Цуп-цуф! Цуп-цуф!—крычалі яны.

Сядзеўшы ў гэты час за клуняю на вярбе дрозд жаласліва высвістаў:

— Ухваціў! Ухваціў! А-а-а!

Чы-Лін пазіраў на гэту сумятню, дзівіўся і, відаць, нешта думаў. Потым ён задраў угору галаву.

— Чук! Чук!—пачаў клікаць брата.

Але тут да яго падляцеў Калыханчык, схапіў сына за крылцы і пабег з ім у вішнячок, у крапіву, каб схаваць яго ад бяды.

## III

Тут ён прасядзеў цэлых тры дні. Бацькі прыносілі яму яду, так што галадаць тут не прыходзілася. Спачатку трохі было маркотна аднаму, але потым прывык. Седзячы адзін ў крапіве, Чы-Лін пачаў разважаць, думаць, наглядаць, што робіцца навокала. Ён бачыў, што сярод птаства на двары

няма згоды, што ўсе яны жывуць разбродам, думаюць толькі аб сваіх патрэбах, а гэтым карыстаюцца драпежнікі і вудзяць іх патроху сабе на спажытак.

Чы-Лін пачаў развіваць сваю думку далей. На трэці дзень у яго галаве злажыўся пэўны план, але аб ім пакуль што ён нікому не гаварыў. К канцу трэцяга дня ён узляцеў на паркан, з паркана на грушу, з грушы на клуню, і з гэтага часу пачаў вельмі спрытна лятаць.

На чацверты дзень павылятаці Чук, Чын, Жычка, Чуча. Дзён два яны жылі пад строгім доглядам бацькоў, а потым патроху пачалі жыць незалежна.

Вось цяпер Чы-Лін узяўся за работу. Ён кідаў новыя мыслі ў птушыныя галовы, мыслі аб тым, каб завесці новы парадак сярод птаства, каб не давацца больш у крыўду драпежнікам. Усюды ён знаходзіў спачуванне, і ўсё птаства з ахвотаю згадзілася з Чы-Лінам, каб сабраць агульны сход.

Сход адбыўся на прыгуменні. Тут было прасторна. На прыгуменні стаяў і азярод, дзе вельмі добра было рассесціся і птушкам. Некаторы час быў шум, і трудна было пачуць, хто што гаворыць.

— Ціха!—крыкнуў Чы-Лін.

Усе сціхлі.

— Грамадзяне! Прашу трымаць парадак, бо так мы патрацім час і наш сход не зможа нічога зрабіць. Выберам раней старшыню, каб ён правёў сход. З свайго боку я прасіў-бы выбраць за старшыню Ціпа.

— Ціп! Ціп! Ціп!—зашумелі птушкі. Певень прыняў яшчэ больш важную постаць. Стоячы на шуле, ён моцна замахаў крыллямі і падзякаваў за вялікі гонар, які аказаў яму сход, моцным ку-ка-рэ-ку.

Затым ён сказаў:

— Абвяшчаю наш сход адкрытым. Слова для даклада мае Чы-Лін.

— Просім! Просім!—загаманілі птушкі.

Чы-Лін выступіў.

— Грамадзяне! Усім вам вядома, пад якім страхам жывем мы. Залятаюць з лесу ястрабы і каршуны: цягаюць нашага брата. Чаму? А таму, што мы жывем кожны па сабе, не думаем аб другіх, не дапамагаем адзін другому. Давайце-ж будзем жыць у згодзе, давайце арганізуем калектыў і завядзем такі парадак, каб у нас былі вартаўнікі. Вартаўнікі пададуць знак, калі дзе пакажацца драпежнік, і мы ўсе будзем ведаць пра бяду і не дапусцім яе на двор. Апрача гэтага, нам трэба мець войска—адбіваць драпежнікаў.

— Ура! Ура!—закрычала варона.

— Так-так-так!—азвалася качка.

— Брава! Брава!—крыкнуў шпак.

— Жыві, Чы-Лін! Жыві, Чы-Лін!—з усіх канцоў шчабяталі вераб'і.

— Кока! Ко-о-о-ка!—пахвалілі Чы-Ліна куры.

Так і зрабілі. Паставілі варту, сабралі войска. Ластавачкі павінны быць на варце і падаваць умоўны знак, калі будзе якая небяспека.

— Рэпетыцыю! Рэпетыцыю!—закрычала ластавачка.

Папрабавалі зрабіць рэпетыцыю. Калі сход скончыўся і ўсе разышліся па сваіх справах, вартаўнік-ластавачка крыкнула з-пад лесу:

— Цу-пу-цуф! Цу-пу-цуф!

У адзін момант другія ластавачкі перадалі гэты крык па ўсім двару, а птушкі зараз-жа падрыхтаваліся да абароны.

— Шыкарна! Шыкарна!—казала сарока.

І вось, калі назаўтра сапраўды вылецеў з лесу ястраб, то не паспеў ён праляцець і поўдарогі да двара, як яго спаткала моцнае птушынае войска. Адна варона так дзюбанула нягодніка, што з яго аж пер'е пасыпалася, і ён больш ніколі не паказваў сюды носа.

І стала спакойна, вольна жыць цяпер птушкам.

А дрозд спяваў ужо такую песню:

— Сіла ў калектыве! Сіла ў калектыве!

1925 г.



## ЗМЕСТ

*Стар.*

